

На здымку злева направа: маладыя свінаркі ўдзельніцы Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі Т. Леонава (соўгас «Шушары» Ленінградскай вобласці), М. Сямёнава (соўгас «Зарэчча», БССР) і В. Талейка (Мінская балотная станцыя) на адной з алей выстаўкі.

Фото А. Дзітлава.

Пролетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР. Мінск.

Год выдання II.
№ 9(18).
Верасень.
1954.

# АД 8 РАНІЦЫ ДА 10



У сталіцы нашай Радзімы Маскве прадаўжае працаваць народны універсітэт — Усесаюзная сельскагаспадарчая выстаўка. На ёй прадстаўлены сотні экспанатаў, якія сведчаць аб найвялікшай творчасці совецкіх людзей, што атрымалі ад совецкай улады права на плённую працу. Народ — гэта сапраўдны творца, найвялікшы вынаходца і даследчык, геніяльны вучоны-практык. Гэта ён пераўтварае прыроду, прымушаючы яе служыць чалавеку.

Тысячы экскурсантаў прыязджаюць на выстаўку, каб пераняць перадавы вопыт догляду пасеваў, вырошчвання новых парод жывёлы, а потым, прыехаўшы дадому, укараніць гэта ў сваіх калгасах, соўгасах, МТС.

Работа на выстаўцы пачынаецца вельмі рана. Як толькі загарыцца над Масквой світанне, да аднаго з бакавых пад'ездаў выстаўкі падыходзяць чырвоныя камфартабельныя аўтобусы. Сюды прыязджаюць на працу экспаненты — людзі, якія дэманструюць у павільёнах выгадаваную імі ў калгасах





Агульны выгляд выстаўкі (уверсе).

**Павільён Беларускай ССР.**

**Экскурсанты ў адной з залаў павільёна Беларускай ССР слухаюць тлумачэнне экскурсавода аб рабоце Лошыцкай садовагародніннай станцыі** (здымак унізе справа).

Фото А. Дзітлава, Н. Кірэева і Н. Куляшова. Тэкст А. Асіпенкі.




і соўгасах жывёлу. Да прыходу экскурсантаў неабходна накарміць, напаіць, пачысціць жывёлу, прыбраць у станках.

Крыху пазней на вуліцы і плошчы выстаўкі выязджаюць нізкія, падобныя на скрыню, машыны-дворнікі. За імі вадапаліўныя аўтамашыны паліваюць асфальт. А ў гэты час газоны скевраў падстрыгае невялічкая ручная касілка. І вось усё гатова. Урачыста і велічна выглядае выстаўка ў чаканні гасцей.

Ля ўваходу занялі свае месцы кантралёры. І адразу-ж алея запаўняецца людзьмі: ідуць калгаснікі Падмаскоўя, Украіны, далёкага Туркменістана, сонечнай Грузіі, паляўнічыя Сібіры, бавоўнаводы Кіргізіі, вінаградары Малдавіі. Агледзеўшы Галоўны павільён, кожны накіроўваецца ў першую чаргу да павільёна сваёй рэспублікі. Тут адбываюцца сустрэчы, адсюль экскурсанты ідуць аглядаць павільёны братніх рэспублік.

Павільён Беларускай ССР. Прыгожы манументальны будынак. Экскурсавод вядзе групу калгаснікаў па залах павільёна. На стэндах — партрэты лепшых людзей рэспублікі, кароткія расказы пра выдатныя справы гэтых людзей.

Экскурсія спынілася перад стэндам калгаса «Зара комунізма» Любчанскага раёна, аглядае жмені срабрыстага ільну, мяккага, як шоўк. Яго вырошчвае звяно Марыі Лазука, якая зусім нядаўна ўзнагароджана ордэнам Леніна. З кожнага гектара зямлі маладая звеннявая дала калгасу па 25,8 тысячы рублёў даходу.

Крыху далей — стэнд Лошыцкай садовагароднінная станцыі. Цудоўныя яблыкі, сакавітыя вішні, салодкія, як мёд, слівы, вялізныя памідоры вырошчваюць і распаўсюджваюць у калгасах вучоныя гэтай станцыі.

Шмат іншых прыкладаў красамоўна сведчаць аб тым, што Беларусь за пасляваенны час дабілася новых выдатных поспехаў у развіцці сельскай гаспадаркі.

Вопыт перадавікоў становіцца здабыткам усіх калгаснікаў. На выстаўцы працуе лекторый, у якім лепшыя даяркі, свінаркі, конюхі, брыгадзіры, старшыні калгасаў расказваюць аб сваёй рабоце, аб тым, як яны дабіліся поспехаў. У кароўніках, свінарніках, канюшнях можна ўбачыць пажылых і маладых калгаснікаў, якія ўважліва слухаюць расказы экспанентаў пра сваю работу. Многія тут-жа запісваюць пачутае ў блакноты і вучнёўскія сшыткі.

Маладыя беларускія свінаркі Марыя Сямёнава і Валя Талейка прывезлі выгадаваных імі свіней на выстаўку. Але дзяўчаты цікавяцца і тым, як

*Маладыя свінаркі М. Сямёнава, В. Талейка і Т. Леонава пасябравалі на выстаўцы з Аннай Жучанка з калгаса «Запавіт Леніна» Чаркаскай вобласці. Часта, калі Анна выводзіць карову на вывадны круг, дзяўчаты сустракаюцца з ёю.*







М. А. Эзерын, І. А. Глядчанка, Л. Ц. Латышава і Е. П. Ляснічая на Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўцы разглядаюць даведнік.





пастаўлена работа на іншых жывёлагадоўчых фермах: буйнай рагатай жывёлы, аўцагадоўчай.

— Прыедзем дадому, — гавораць яны, — раскажам нашым жывёлаводам, як трэба па-навуковаму даглядаць жывёлу.

Група брэсцкіх і віцебскіх калгаснікаў зацікавілася вырошчваннем кукурузы на сілас. На адкрытай пляцоўцы, непадалёку ад павільёна нашай рэспублікі, ім паказалі вопытны ўчастак. На ім кукуруза вышынёй не менш двух метраў. Гэта сапраўдны лес. Ураджай зялёнай масы з такога ўчастка складзе не менш 80 тон, а гэта дасць магчымасць атрымаць не менш 15 тысяч кілаграмаў малака.

Яшчэ нядаўна амаль усе работы ў сельскай гаспадарцы вяліся ўручную. За пасляваенныя гады вучоныя вынайшлі шмат новых машын і агрэгатаў, якія ў дзесяткі разоў аблягчаюць і паскараюць працу калгаснікаў.

У павільёне механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі выстаўлены новыя перасоўныя зернесушылкі, бульбаўборачны камбайн, рознастайныя машыны па ачыстцы насення, стогаскідальнікі, трактарныя касілкі. Далёка наперад пайшла механізацыя жывёлагадоўчых фермаў.

Шмат цікавага можна ўбачыць у батанічным садзе, у павільёнах юннатаў, рыбнай гаспадаркі, земляробства.

За вучобай і работай непрыкметна насоўваецца вечар. Звычайна перад захадам сонца на круг выводзяць коней. Гарцуючы, ідуць арабскія і цехінскія скакуны, паважна, як казачныя коні-волаты, выступаюць уладзімірскія цяжкавозы, за імі нізкарослыя, але дужыя вяцкія коні. Адзін за другім выводзяцца на круг арабскія скакуны «Негатыў» і «Набор». Гэта бацька і сын, заядлыя сапернікі ў спаборніцтвах па бегу. Іх выгадавалі і даглядаюць дзве дзяўчынкі-конюхі Тэрскага коннага завода Валя Дзюбак і Марыя Гусева.

Валя Дзюбак пачала працаваць на канюшні з 17 год. Яна гаворыць, што лепшай прафесіі, чым яе, няма на свеце. І яна права, — бо тая прафесія найлепшая, якую любіш.

«А куды ісці заўтра?» Старшыня калгаса «Інтэрнацыянал» Лёзненскага раёна Іван Арцёмавіч Глядчанка разгарнуў даведнік. На ім чырвонай птушкай адзначаны павільёны, у якіх ён пабываў разам са звеннявой свайго калгаса Героем Сацыялістычнай Працы М. А. Эзерын і знатнымі ільнаводамі Героем Сацыялістычнай Працы Е. П. Ляснічай з калгаса «Профінтэрн» Дрысенскага раёна і Л. Ц. Латышавай з калгаса імя Менжынскага Арэхаўскага раёна. Яны ўжо трэці дзень на выстаўцы, а ледзьве агледзелі палову павільёнаў.

У павільёне механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі.

Беларускія экскурсанты аглядаюць кукурузу.

Марыя Гусева (злева) і Валя Дзюбак са сваімі выхаванцамі.



Вучаніцы адной з маскоўскіх школ Галя Сакалова, Галя Шчарбакова і Рыта Гушчына займаюцца ў батанічным гуртку. На выстаўцы ля павільёна юннатаў яны сустрэлі шасцігадовага Вову Фралова. Вова вельмі цікавіцца рознымі раслінамі, але большасць з іх яму невядомыя. Дзяўчынкі расказалі Вову, якія на градках растуць расліны, кветкі і як іх трэба даглядаць.

На здымку: Г. Сакалова, В. Фралоў, Г. Шчарбакова і Р. Гушчына.

Фото А. Дзітлава.







Зайшло сонца. Над Масквой апускаецца жнівеньская цёплая ноч. Далёка, у цэнтры горада, загараюцца чырвоныя крэмлёўскія зоркі. І адразу-ж тут, на Ўсесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўцы, успыхваюць тысячы агнёў. Яны заліваюць скверы, вуліцы і павільёны малочна-белым святлом. Схаваныя ў кветках і сярод зеляніны кустоў пражэктары ствараюць дзівоснае спляценне колераў: ад светласалатавага да цёмназялёнага.

Як казачны, выглядае і фантан «Каменная кветка». Кожная пялёстачка яго, кожны каменьчык гарыць сваім святлом. Недзе ў глыбіні басейна іскрацца чырвоныя пражэктары. На іх падаюць з вышыні струмені вады, і здаецца, быццам гарыць басейн вечным, нязгасным агнём. А над галоўным павільёнам у святле магутных пражэктараў палошчацца на ветры чырвоны сцяг Савецкага Саюза. Пад сцягам праходзяць вясёлыя, шчаслівыя людзі, радасныя за свае поспехі, за поспехі сваёй Савецкай улады, роднай Камуністычнай партыі, якая прывяла савецкі народ да перамогі сацыялізма.

На здымках: Віды выстаўкі ноччу.

Фото А. Дзітлава.

Раман САБАЛЕНКА

# ЦВЁРДЫМ ПОСТУПАМ

Мікалаю Іванавічу было страшнавата ісці працаваць старшынёй калгаса імя Варашылава. Арцельная гаспадарка там за апошні год зусім занепала. Карова за дзень давала 300 грамаў малака. З 150 гектараў поля было намалочана толькі 24 тоны збожжа.

Мікалай Іванавіч перабіраў у памяці ўсё сваё невялікае жыццё: яно было нескладаным, хоць і цяжкім. Нарадзіўся ён у вёсцы Заполле, што каля Карэліч. Бацькі калісь перабіваліся з хлеба на квас. Юнаком ён пакінуў сваё роднае Заполле. Вярнуўшыся дадому, стаў комсамольцам, паступіў працаваць у соўгас «Карэлічы». Там адразу заўважылі Міколу Сурагу як здольнага хлебароба, які любіць зямлю і не шкадуе для яе працы. Яго вылучылі брыгадзірам. Мікалай Іванавіч уступіў у партыю. А цяпер яму давяраюць узняць на ногі самы адсталы ў раёне калгас. Ці справіцца ён?

І вось Мікалай Сурага выбраны старшынёй калгаса.

На першым пасяджэнні праўлення калгаса, загадзя вывучыўшы ўсё да драбніц, новы старшыня гаварыў:

— Калі мы не ўзнімем працоўнай дысцыпліны, калі мы не ўкароцім рукі тым, хто квапіцца на калгаснае дабро, дык мы не зможам паставіць на ногі свой калгас. А нам яго трэба паставіць. Абавязкова трэба. Гэтага ад нас патрабуе партыя. У нас вунь якія багацці: аднае ворнае зямлі 1 630 гектараў ды сенажацей амаль столькі. А мы топчам гэтыя багацці, ні сабе, ні людзям ад іх карысці няма. У нас ёсць і гной, у нас ёсць і торф, а зямелька наша чаўрае без угнаенняў. І ўсё таму, што захавалася яшчэ нядбайства.

... Сялянская хата, у якой тады змяшчалася праўленне, была перапоўненай. Каля прыталакі, зашыўшыся ў куточак, не паказваючы вачэй, стаялі Язэп Шымка і Мар'я Машчокская. Не так даўно Язэп набраў з поўвоза калгаснай саломы, а даглядчыца авечак Мар'я Машчокская схавала 120 кілаграмаў макухі. Каб пры тым старшыні, дык яно-б так і прайшло. А гэты, відаць, не дарус?..

Не даруе!

— Язэп Шымка і Мар'я Машчокская тут? — пачуўся голас старшыні.

— Тут, тут, — нясмела адказалі тыя.

— Падыйдзіце бліжэй сюды, я хоць на вас пагляджу... — А калі мужчына з жанчынай пад калючыя рэплікі прысутных прыціснуліся да стала, старшыня праціягваў: — Глядзіце вы на іх, якія яны здатныя! Вас пад суд патрэбна за крадзеж грамадскага дабра. Але мы пакуль што судзіць вас не будзем. От пастойце тут перад судом сваіх калгаснікаў ды пачырванейце, можа і зразумееце, што красці грамадскае дабро — найвялікшае злачынства, а калі не зразумееце, будзеце крыўдаваць на сябе. А пакуль тое, што ўкралі, вярніце... Якія ёсць прапановы ў членаў праўлення?

— Я прапаную, — падняўся з месца Валеры Пліско, — аштрафаваць на першы раз, каб другім не павадна было...

Выступілі адзін за адным старшыня рэвізійнай камісіі Казімір Мазальскі, калгаснік Іосіф Гурэцкі. Яны патрабавалі не патакаць нядбайнікам.

А ў другім кутку чакалі сваёй чаргі Васіль Смолка з жонкай Мар'яй. Яны не бралі нічога грамадскага. Яны толькі не выходзілі на працу, ленаваліся. Калі старшыня запытаў у Васіля, чаму ён не ходзіць на працу, той яшчэ стаў выкручвацца, пачаў спасылацца, што будзе марная праца яго.

Старшыні хацелася сказаць нешта колкае гэтаму чалавеку, але ён стрымліваў сябе, разумеючы, што такіх, як Смолка, у калгасе набярэцца яшчэ з дзесятак і з імі павінны папрацаваць настойлівыя і цярплівыя агітатары, комуністы і комсамольцы. Таму Сурага ўжо лагодным тонам сказаў:

— От што, Васіль, з сённяшняга дня каб у тваіх руках работа гарэла. Праца наша не будзе марнай, працадзень аплоціцца як мае быць.

Тыдні праз два ў калгас наведаўся сакратар райкома партыі Іван Фёдаравіч Мікулевіч. Ад яго дапытлівага вока не схавалася нічога. Ён адразу заўважыў, што на калгасным двары быў наведзены парадак. Калгаснікі неяк галовы ўзнялі. А гэта добрая прыкмета. Увечары склікалі адкрыты партыйны сход. У калгасе нямала комуністаў — Мікалай Анішчык, Аляксандр Туркевіч, Міхаіл Гайдук, намеснік старшыні Казімір Урбановіч, кладаўшчык Аляксандр Зайка. Немалая і калгасная комсамольская арганізацыя. І людзей сабралося многа. На сходзе сакратар райкома папрасіў комуністаў і комсамольцаў выказаць свае думкі і меркаванні наконт таго, як палепшыць работу, як узняць калгас. Гаварылі ўсе слушна, як сапраўдныя гаспадары, заклапочаныя тым, каб зрабіць калгас сапраўды моцным.

Назаўтра ў брыгады пайшлі агітатары. Рашэнні гістарычнага верасніёўскага Пленума Цэнтральнага Камітэта партыі ў калгасе імя Варашылава вывучаліся ў кожнай хаце. Калгаснікі бачылі іх своечасовасць, іх глыбокую народную мудрасць.

Пачалася ўборка. Усім стала не да сну. У апошнія дні, калі патрэбна гарачынь, раптам, глядзіш, аднекуль насунецца чорная хмара, і дождж сапсуе ўсе разлікі. Паводле складзенага плана, уборачныя работы павінны быць праведзены за дзесяць дзён. Тры камбайны выйшлі на поле. Размахваючы крыламі, нібы хочучы ўзляцець з зямлі, плывуць жняяркі. У другі час, каб не гэтыя настырлівыя дажджы, і трывогі-б ніякай не было за ўраджай. А тут трэба турбавацца. Таму праўленне вырашыла ў дапамогу камбайнам паслаць на поле ўсіх жанчын з сярпамі. На ўборцы-ж, кажуць, як на пажары: не выхапіў своечасова — прапала. А цяпер ужо не трэба хадзіць па падваконню кожнай хаты і загадваць выходзіць на работу. Людзі ўбачылі, што калгас іх набірае сілы, сталее. Ураджай у гэтым годзе такі, якога даўно не помняць у Валеўцы. На некаторых участках камбайны намалочваюць да 20 цэнтнераў з гектара. А зрніце на лён!

У старшыні быў асаблівы клопат пра лён. Да сёлетняга года ў калгасе яго амаль не было: засеюць адчэпнага дзе які брыток поля, і лён сабе расце без прыгляду і дагляду. А сёлета вырашылі пасеяць 65 гектараў. Але перш за ўсё трэба было падабраць звеннявымі такіх жанчын, якія не пашкадавалі-б працы ды і кемнасць мелі. Такімі аказаліся маладыя дзяўчаты і жанчыны Параска Мікулка, Вера Шымка, Аляксандра Зайка. Комсамольская арганізацыя таксама паклапацілася, каб падабраць звеннявымі самых лепшых дзяўчат.

Іх паслалі ў суседні Любчанскі раён да знатных звеннявых Веры Комар і Героя Соцыялістычнай Працы Праскоўі Калолы павучыцца, як вырошчваць лён. Потым у Любчы праводзіўся семінар звеннявых двух раёнаў. Звеннявыя з калгаса імя Варашылава паехалі на гэты семінар.

Мікалай Іванавіч глядзеў на жанчын і, здаецца, не пазнаваў іх. Яшчэ ўзімку, калі стаялі лютыя марозы, яны збіралі попел, а як выйшлі на сяўбу ды на догляд ільну, дык гэтак шчыравалі на працы, што сонца іх сустракала ў полі і пакідала на полі. І вось аграном сцвярджае ды і сам Мікалай Іванавіч бачыць, што на кожным гектары вырасла самае малае 7—8 цэнтнераў ільновалакна ды гэтулькі-ж насення. Гэта каля двухсот тысяч рублёў прыбытку калгасу!

Ля скрыжавання дарог стаіць стары бурклівы вадзяны млын. Вада глуха падае на кола, і яно лена паварочваецца, а паставы аж стогнуць, крэкчуць, нібы адчуваючы сваю старасць і нядоўгавечнасць. Варта толькі перайсці цераз мост, адыйсціся па зялёнай мураве метраў з чатырыста — і адразу ўбачыш высокую чорную трубу паравіка. Сёння тут асабліва людна. Паставілі ўжо ў рад, як салдатаў, высокія белыя слупы і нацягнулі на іх правады. Праваднік глуха чахкае, сіпіць параю.

— Адам Іванавіч, ты падшуруй там трохі лепш, — звяртаецца старшыня да старога калгаснага механіка Ціхановіча. — Трэба падняць пару атмасфер на дзесяць, каб адразу павярнуць лесапілку.

Электраманцёры, што прыехалі з Баранавіч, устанавілі дынама, размеркавальны шчыт, на якім ужо бліснула сваім залатым вокам першая ў Валеўцы электрычная лямпачка. Хоць гэта яшчэ быў і неафіцыйны пуск, сабралася многа людзей. Як-жа такой навіной не пацікавіцца! А хутка слупы пакрочаць па ўсёй вёсцы. Успыхнуць лямпачкі пад столлю кожнай хаты, пазалоцяць вокны школ, асветляць калгасны двор. І яшчэ больш радасным стане калгаснае жыццё. Запрацуе піларама. Яна будзе рэзаць дошкі, якіх гэтак многа трэба для таго, каб калгасныя будаўнікі ставілі канюшні, кароўнікі, новыя дамы для калгаснікаў.

Красуе калгас імя Варашылава, калгас, які год назад быў адсталым.

**Карэліцкі раён**
**Гродзенскай вобласці.**

**Малацьба ў калгасе імя Варашылава. На пярэднім плане — старшыня калгаса М. І. Сурага** (справа) **і брыгадзір паляводчай брыгады А. М. Туркевіч.**

Фото А. Перахода. (Фотахроніка БЕЛТА.)



Максім ЛУЖАНІН

# Новыя вершы

Мал. Ю. Пучынскага.



## З асенняга падарожжа

ПЕТРУСЮ БРОЎКУ

Краіна мая! Залацістымі рэкамі
Ты зноў падперазана — восень прышла!
І скрозь па асфальце, куды-б мы ні ехалі,
Пшаніцы і жыта патока плыла.

Фурманкі са збожжам, камбайны пад ветразем...
Глядзі, маё сэрца, запомніць падбай:
Палеткі прасторныя, далечы светлыя,
У руках і ў вачах у людзей — ураджай.

Зайшоўшы ў калгас, за размоваю добраю
Здружыўшыся з ветлівым гаспадаром,
Мы ўспомнілі песню адну, валачобную,
І ўстала маленства на міг за акном.

Цягнулі калісьці яе па падвоканню,
І сёння, узняўшы пад столь галасы,
З усмешкай вялі...
А другою, шырокаю,
Грымелі пра нівы, пра нашы лясы.

Пра тыя часы, што сурова і ласкава
Нас вывелі ў свет з завуголляў глухіх,
А то-б векавалі у пана падпаскамі
Амаль без надзеі прайсці ў пастухі.

Спявалі пра ўсё — як працуем і думаем,
І ў тую адменную хвілю святла
З астрожным, дагэтуль нязгоеным нумарам
Жанчына руку цераз стол падала.

Маўчала, як быццам звінела кайданамі,
Хоць збіў іх даўно невядомы баец.
Яна ўратавалася з пекла Майданэка,
А нумар наступны быў маці твае.

Чаму-ж не прыходзіць? Яна-ж не пазнілася
У школку правесці, прысці сустракаць,
Бязбожнікам быў, а ўсёроўна хрысцілася,
Каб ліха ў дарозе мінула сынка.

Агонь спапяліў за дратамі калючымі
І сэрца яе, пад якім ты узрос,
І спеўныя вусны, і вочы відушчыя,
І рукі, што выжалі столькі палос.

... Нас konьмі таптаlі, цкавалі сабакамі,
Жалезам выпальвалі сонца з павек,
Гнаілі ў палоне з такімі адзнакамі,
Што кат сваіх рук не адмые павек.

Ды мы не зламаліся і не сагнуліся,
Сагнулі, зламалі варожы хрыбет.
На плодных палях, на адноўленых вуліцах
Пратораваем проста ў наступнае след.

Не грукне вайна апантанымі коламі,
Дзе ты будаваў, дзе я дрэвы садзіў, —
Я рынуся смела у першае полымя,
Пайду і спыню, бо пайду не адзін.

Гарыць у нас боль за сястру таўраваную,
Сцяг міру лунае над маці жывой.
Сябры нашы простыя, людзі адданыя
За дрэўка бяруцца, рука за рукой.

Мы нелюдзей новых сатром не праклёнамі,
Не толькі штыкамі з іх выгацім гаць,
А песняй гудкоў, прыдарожнымі клёнамі,
Усім нашым жыццём будзем перамагаць.



## Права на верш

Калі ты ў шуканнях змогся,
То пішаш, то ў шмацце рвеш,
Не засмучайся дужа —
Гэта яшчэ не верш.

Калі ты радком прачулым
Дзяўчыну да слёз кранеш,
Не ашукайся, дружа,
Гэта яшчэ не верш.

Калі цябе, майстра, хваляць,
Не ўзнося, падумай перш:
Самае звонкае слова
Гэта яшчэ не верш.

Ідзі, хай агорне душу,
Налье вастрынёю зрок
Трываласць твайго народа
На першай з людскіх дарог.

Ідзі, хай заробяць рукі
Горды яго мазоль,
Якім ён жыццё з'іначыў,
Здабыў сабе хлеб і соль.

Ты станеш байцом у дазоры,
Умельцам ступіш у цэх,
Сажнеш ураджайныя зоры
На шчасце калгасных стрэх.

Углыб урасце карэнне —
Выбухам не ўзарвеш.
І скажацца ўсё дарэшты,
Што думаеш, што нясеш ты,
Так лёгка, нібы дыхнеш.

Гэтак яно прыходзіць,
Права тваё на верш.



## Мы ў парк прышлі

Мы ў парк прышлі, а там якраз
Забіў фантан... адно-ж
У той-жа міг, нібы ў адказ,
Прытупнуў спорны дождж.

Павыганяў усіх з-пад ліп,
Па лісці ў ладкі біў,
А мы ўсёроўна не пайшлі-б,
Каб нават лівень быў.

Сасмаглі дрэвы навакол
І ўсё, што з іх радні.
Здаецца, вып'е прагны дол
Хоць возерам ліні.

І разам з намі хлапчуку
Праз дождж цвіла вясна.
Яго цягнулі за руку
Сухое апранаць.

Ён упіраўся, на хаду
Тлумачыў, як гульню:
— Фантан на неба лье ваду,
А неба — на зямлю.



## Яблыня

На яблыні ружовы цвет —
Галіна пры галіне.
І дрэўца, нібыта букет,
Бяры, нясі дзяўчыне.

Яна ў гушчарыне лясной
Была відна з дарогі,
Яе, нагледзеўшы вясной,
Забраў садоўнік строгі.

А потым, выбраўшы пару,
Прышоў у агародчык
І прышчапіў ёй пад кару
Цудоўных пару вочак.

Яна тады на белы свет
Зусім інакш зірнула,
І, зноў прыбраўшыся у цвет,
Усё інакш адчула.

Стаіць, падобна да тае
Дзяўчынкі невялічкай,
Што ножкі босыя свае
Абула ў чаравічкі.

Пашоў па голлі свежы сок,
Калючкі пагубляла,
Пабелкі чысты хвартушок
На стане завязала.

Хоць рада сонечнаму дню,
Не зварухне галіны —
Там завязаўся ўпершыню
Вялікі яблык вінны.



**І. НАУМЕНКА**

# Надзейныя рукі

**Нарыс**

Гады два назад прыехалі ў свой калгас чатыры дружбакі Міхась і Ціхон Анісенкі, Уладзімір Доўбыш і Мікалай Кардаш. Хлопцы як на падбор — рослыя, шырокія ў плячах. Некалі хадзілі яны разам у сямігодку, бралі штурмам снежныя крэпасці, якія самі-ж і будавалі на вясковым выгане.

У горадзе мелі яны справу з тэхнікай і вярнуліся назад у калгас сталымі.

Хлопцы сумленна адгульвалі вызначаныя імі самімі па дарозе дадому два тыдні: хадзілі на вечарынкі, наведвалі блізкіх і далёкіх сваякоў. Але праз тыдзень такое жыццё ім досыць абрыдла.

Дні стаялі цёплыя, сонечныя, хоць і быў пачатак восені. У паветры лётала лёгкае павуцінне, а дзесьці высока ў небе журботна курлыкалі журавы, напамінаючы, што ўжо не за гарамі і зіма. Спраў-жа ў калгасе быў непачаты край. Трэба было сецаць азімыя, малаціць ураджай, але ў асаблівым прарыве апынуўся калгас з нарыхтоўкай кармоў.

Нават не згаварваючыся, хлопцы аднойчы прышлі на сенажаць. Усе чацвёра з'явіліся з косамі і з торбачкамі, дзе ляжаў харч на дзень. Брыгадзір Алесь Кардаш, убачыўшы ў ліку касцоў чатырох дужых юнакоў, быў задаволены.

— Размяцца, відаць, захацелі, — сказаў ён, падышоўшы да Міхася Анісенкі. — Справа добрая, толькі не хапайце вельмі. А то да полудня нагоніце мазалёў. А гусінага сала мы якраз не прывезлі...

Твар у брыгадзіра зарос густой, дрымучай шчэццю, брытва, відаць, не хадзіла па ім месяцаў са тры. Вочы з хітрынкай здаваліся стомленымі.



Калгаснікі вырасцілі сёлета добры ўраджай. З бункера камбайна сыплецца буйнае, важкае зерне. На здымку: брыгадзіры П. Раянок і Ф. Шаціла ацэньваюць умалот.



У перапынак цікава паслухаць гутарку агітатара. У малацільшчыкаў агітатарам працуе старшыня калгаса Аляксандр Аляксеевіч Крысенка.

— Мы, дзядзька Алесь, працаваць прышлі, а не на экскурсію, — адказаў Міхась Анісенка.— Касіць-жа спрабавалі некалі, успомнім як-небудзь. А вось чаму вы, дзядзька, не голіцеся?

— Заматаўся я, браток, не да галення. Рабочых рук нехапае, а работы столькі, што як падумаеш, то галава кругам ідзе. Сена і палавіны таго, што трэба, не накасілі, сіласу — кот наплакаў. Ураджай мышы ядуць—малаціць трэба. А брыгада-ж — цэлая вёска, не тое, што раней. Не спраўляюся, мусіць. Стары стаў...

Міхась памятаў Алеся Кардаша як найлепшага брыгадзіра не толькі ў іх калгасе, але нават у цэлым раёне. У Кардаша заўсёды быў высокі ўраджай, самы дасканалы распарадак ва ўсякай рабоце. Нездарма яшчэ да вайны ездзіў ён на Усесаюзную сельскагаспадарчую выстаўку ў Маскву.

— А вы дзе працаваць думаеце? — спытаў брыгадзір. — Можа, на чыгунку пойдзеце, або на кансервавы завод?

— А чаму на чыгунку? — здзівіўся Міхась. — Хіба ў калгасе работы мала?

— Тады іншая справа, — узрадаваўся брыгадзір. — У такім разе прашу прабачэння, а то я нядобрае пра вас падумаў. Рашыў, што проста засумавалі хлопцы, ну, і прышлі праветрыцца. А там, думаю, паробяць дзён са два, стомяцца і — фыр-р-р! — з роднага сяла.

Міхась засмяяўся. Ён цяпер ужо разумеў прычыну брыгадзіравага нездавальнення.

— Чаго там таіць, былі, брат, у нас пералётныя птушкі, — расказваў брыгадзір. — Вось нядаўна прыехаў адзін такі брандахлыст. У калгасе, кажа, працаваць хачу. Паглядзелі — дзяціна маладая, дужы. Што-ж, думаем, можа і атрымаецца толк, рабочыя рукі ў калгасе патрэбны. Праўда, новы калгаснік павёў сябе для пачатку як-бы крыху дзіўна. Спярша папрасіў аванс. Разважылі мы, падумалі — далі: чалавек здаровы, а есці, вядома, трэба. Ну, выйшаў ён на работу. Паслалі яго з дзяўчатамі карчаваць сенажаць. Дзяўчаты стараюцца, працуюць, народ, сам ведаеш, у нас не благі. А новы калгаснік гэты, як сабака ад мух, ад работы туляецца. Цюкне разы са два сякерай, ляжа пад куст, пакурыць. А то падыйдзе да дзяўчат — зубы скаліць, перашкаджае працаваць... Ну, далі папярэджанне гультаю. Хлеб, кажам, у калгасе таксама не дармавы, калі так і далей справа пойдзе, то будзем рабіць вывады. А ён тых вывадаў і не чакаў — збег праз тыдзень...

— Аванс, значыць, так і прапаў задарма? —спытаў, смеючыся, Міхась.

— Аванс, гэта яшчэ поўбяды. Слухай далей. Пасмяяліся мы з гэтага выпадку дый усё. Не будзешжа ты пісаць заяву ў пракуратуру на збегшага гультая, які дарэмна з'еў тры пуды хлеба і скарыстаў літраў дваццаць малака. Але праз месяц з'яўляецца да нас ў калгас нейкі агент з райзага ці з спажыўсаюза. Гляджу, ажно гэта наш няўдалы калгаснік. З раменнай сумкай, і выгляд амаль што начальніцкі. Ездзіць па калгасах, косці, анучы і жалезны лом збірае... Паспрабаваў я яго прысароміць, дык дзе там! Носа качаргой не дастанеш. Утыль, кажа, гэта—дзяржаўная справа, і вы, як брыгадзір, павінны мне дапамогу аказваць, а не лаяць. Раззлаваўся тут я не на жарт, хацеў сцебануць абібока ды не захацеў рукі паганіць. А хлеб табе не дзяржаўная справа, смярдзюх!?

— А дзе-ж цяпер гэты нарыхтоўшчык касцей?

— Выгналі. Мы ў раёне таксама пастараліся. Паехаў шукаць шчасця ў другое месца.

Міхась з сябрамі прабылі на сенакосе амаль тыдзень. А як управіліся, пайшлі да сакратара камсамольскай арганізацыі Паўла Раянка брацца на ўлік. Павел мала чым старэйшы за іх, але ўжо чатыры гады працаваў брыгадзірам паляводчай брыгады і тры гады ўзначальваў калгасную камсамольскую арганізацыю. Чалавек ён бывалы. Яшчэ хлапчуком перад вайной разам з бацькам ездзіў на новыя землі ў Карэла-Фінскую рэспубліку. У ваенныя гады вучыўся ў рамесніцкім вучылішчы, працаваў цесляром на уральскіх заводах. Працаваў добра, за што мяmала меў падзяк і ганаровых грамат. Гадоў сем назад Паўла пацягнула ў родныя мясціны, у калгас. Ледзь адпрасіўся, бо быў цесляром вышэйшага разраду.

— Гэта добра, што вы прыехалі, — сказаў Павел Раянок. — Работы, самі бачыце, колькі, для кожнага знойдзецца.

Работа знайшлася, сапраўды, для кожнага. Сябры асаблівых пасад не прасілі, пайшлі працаваць у паляводчую брыгаду.

Хутка Ціхона Анісенку паставілі фуражырам на жывёлагадоўчую ферму, паслалі туды і Уладзіміра Доўбыша, якога абралі пасля членам праўлення. Тая зіма была вельмі цяжкай для калгаснай жывёлагадоўлі. Кармоў нарыхтавалі тады толькі палову патрэбнага. А пагалоўе было немалое — адной буйнай рагатай жывёлы каля шасцісот галоў, ды яшчэ авечкі, коні, усяго за тысячу галоў. Шмат папрацавалі камсамольцы, каб не дапусціць упадку жывёлы.

* * *

Брыгаду Алеся Кардаша ўсё часцей лаялі на праўленні, крытыкавалі на сходах і ў насценгазеце. Яна і сапраўды адставала: нарыхтоўку кармоў правалiла, малацьбу зацягнула, адным словам, апынулася ў самым хвасце. Праўда, Алеся Кардаша паважалі за

мінулыя заслугі, таму з брыгадзіраў пакуль не здымалі.

— Не магу я больш пацягнуць брыгады, — заявіў аднойчы на праўленні Кардаш. — Стары стаў, ды і жонка хворая. Прашу вызваліць — для карысці справы.

— А каго-ж на брыгаду? — кінуў нехта рэпліку.

— О, замена ў мяне ёсць, — ажывіўся стары брыгадзір. — Міхась Анісенка! Ён пацягне...

На тым-жа праўленні Міхася Анісенку прызначылі брыгадзірам першай паляводчай брыгады. Цяпер у калгасе імя Молатава два камсамольцы стаялі на чале брыгад — Павел Раянок і Міхась Анісенка. У хуткім часе Міхася абралі і намеснікам сакратара камсамольскай арганізацыі.

Падзеі далей развіваліся такім ходам, што справы камсамольцаў надоўга прыкавалі ўвагу калгаснікаў і паслужылі добрым штуршком нават для старэйшых.

Вёскі Паселічы і Лісцвін падзяляюцца толькі шырокім выганам, на ўскрайку якога размешчаны калгасны клуб. Клуб гэты вызначаецца многімі сваімі рысамі. Мясцовыя архітэктары абсталявалі яго накшталт гарадскога тэатра. Тут ёсць пакой для артыстаў, ложы і нават галёрка. Гаспадары калгаса не без падстаў лічаць, што іх клуб намнога лепшы за раённы Дом культуры, бо ён можа ўмясціць чалавек чатырыста, а ў раёне іншы раз і ў кіно цяжка трапіць.

Год назад у гэтым самым клубе было асабліва ажыўлена. З Паселіч, Лісцвіна, Берасцечка, Мархлеўска і іншых брыгадных пасёлкаў прыйшлі на сход сто дванаццаць камсамольцаў і шмат моладзі. Пытанне стаяла надзвычай важнае — удзел моладзі ў выкананні рашэнняў верасеўскага Пленума Цэнтральнага Камітэта партыі. Шмат каштоўных мерапрыемстваў дзеля далейшага ўздыму арцельнай гаспадаркі намеціла моладзь. Тады-ж заключылі дагавор на сацыялістычнае спаборніцтва брыгадзіры першай паляводчай брыгады Міхась Анісенка і сёмай брыгады Павел Раянок.

— Паглядзім, як будуць спаборнічаць сакратар са сваім намеснікам, — гаварыла моладзь.— Хто-ж каго перацягне?

Моладзь не на жарт узялася за працу, каб павысіць ураджай. Пачынаючы з мінулай восені ў калгасе пайшлі новыя справы. Тарфяных балот паблізу тут няма, таму, практычна, торф на калгасныя палі амаль не вывозіўся. А леташняй восенню торф нечакана знайшоўся, і прытым у такой колькасці, што яго хопіць на шмат год.

Восеньскім днём на выган, дзе раней усё лета пасвіліся коні і таму трава не расла вышэй падэшвы, прыйшлі Павел Раянок з Міхасём Анісенкам, а з імі яшчэ некалькі юнакоў і дзяўчат. Яны пачалі корпацца рыдлёўкамі ў невялікай лагчыны, зарослай густым аерам.

— Тут некалі сажалка была. Гэта нават маладыя памятаюць, — гаварыў Міхась Анісенка. — А да нас можа нават якое-небудзь возера было. Дзед мой казаў, што некалі сюды качкі і жураўы прыляталі.

Торф знайшлі ў некалькіх мясцінах, пласт яго быў глыбокі і для ўгнаення ён быў зусім прыгодным. У хуткім часе камсамольцы абвясцілі тыдзень па нарыхтоўцы торфу, а за ім другі і трэці... Торф сушылі, затым везлі на фермы на падсціл жывёле, а пазней на поле. Брыгадзір Мікалай Цішкевіч, з мархлеўскай брыгады, чухаў патыліцу:

— Ты не глядзі, што яны ноччу спаць не даюць, рэжуць на гармоніку і да трэціх пеўняў песні спяваюць, — гаварыў ён пра камсамольцаў.—Маладосць тут, брат, нічога не папішаш. А гаспадарская струнка ў іх ёсць. Малайцы, адным словам, — нас абагналі...

Быў задаволены і старшыня калгаса Аляксандр Аляксеевіч Крысенка. Ён склікаў нечарговае пасяджэнне праўлення, на якім адобрылі ініцыятыву камсамольцаў. У вывазку торфу ўключыліся ўсе брыгады. Такім чынам, калгас здабыў дадаткова шмат угнаенняў.

Сёлетняя вясна не вельмі радавала калгаснікаў. Была яна позняя, няўстойлівая: у маі нават, як сеялі, халодны вецер сек у твар снежнай крупкай. Але моладзь не тужыла. Калгасны аграном камсамолка Ліда Гарачая ўсеадно дамаглася свайго. Усю збажыну пасеялі радковым спосабам, а бульбу пасадзілі квадратна-гнездавым.

На сяўбе брыгады Паўла Раянка і Міхася Анісенкі ішлі прыкладна роўна. Пасеялі ў тэрмін. Павел, які брыгадай кіраваў пяты год, справу вёў спакойна, упэўнена. Ён не крычаў і не мітусіўся. Міхась-жа насіўся па полі, як апантаны. Ён зламаў веласіпед, а пасля, бегаючы, за два тыдні стаптаў амаль новыя боты.

— Ты, брат, як той малады певень, — сказаў неяк Міхасю Павел. — Усё хочаш зрабіць з наскоку. Але нічога, галоўнае — энергія. Астатняе ўсё прыдзе з часам...

— А ты нешта ўжо залішне спакойны, — адгукнуўся Міхась. — Ці не стаў старэць?

Усё-ж першую паляводчую брыгаду, якая зусім нядаўна цягнулася ў хвасце, пачалі хваліць і ставіць у прыклад. Энергія маладога брыгадзіра не прападала дарэмна. Павел Раянок таксама быў задаволены, што з Міхася атрымліваецца толк, і стараўся якнебудзь дапамагчы таварышу. Аднойчы на брыгадны двор заехаў камсамолец Аляксей Пракопенка з машынай, у кузаве якой была нагружана селітра. Калгас закупіў сёлета два вагоны селітры, але яна, як самае каштоўнае ўгнаенне, была размеркавана на праўленні прыкладна пароўну паміж брыгадамі.

— Па чатыры машыны ўсім завёз, — гарачыўся шафёр. — А гэта лішняя, астатак. Так што згружу на вашым двары, сакратар.

— Вось што, браток, едзь лепш у анісенкаву брыгаду і там разгрузі, — коратка адказаў Павел.

Шафёр пацісnуў плячыма і паехаў.

Лета не вельмі спрыяла ўраджаю. У маі ішлі дажджы, а ў чэрвені, калі колас пачаў наліваецца, на небе не было ні воблачка.

І тут сёй-той з калгаснікаў пачаў увільваць ад работы. Паявіліся адыходнікі і сярод камсамольцаў.

— Трэба паставіць перад грамадскім судом тых, хто падводзіць калгас, — прапанаваў сакратару Міхась Анісенка. — Завастрыць супраць іх грамадскую думку...



Апошнімі пойдуць з поля ільнаводы. Камсамолкі Каця Заяц, Соф'я Рухлевіч і Вера Касцючэнка аглядаюць выбраны імі лён.

Фото Я. Міляўскага.

Сабралі камсамольскі сход, і на ім абмеркавалі паводзіны Міхася Зайца, які ў напружаны час палявых работ пайшоў у заработкі на кансервавы завод. Папала моцна і Зайцу і іншым. Адыходніцтва сярод моладзі амаль знікла.

Збажына, не гледзячы на неспрыяльнае надвор'е, вырасла усё-ж добрая. Жыта стаяла сцяной, праўда, крыху горшымі былі яравыя. А бульба ірвала зямлю. Не прапалі, значыць, дарэмна торф і іншыя ўгнаенні, радковая сяўба і квадратна-гнездавы спосаб! У брыгадах былі створаны камсамольскія групы, а для аховы ўраджаю — камсамольска-маладзёжныя пасты. Гэта вельмі дапамагло, бо з другой паловы ліпеня хлынулі праліўныя дажджы. Жыта зжалі за лічаныя дні, і сушылі яго, выкарыстоўваючы кожную гадзінку сонечнага надвор'я. На полі, седзячы ў бабках, штодзённа дзяжурылі школьнікі. Выбліснe сонца — шапкі з бабак далоў, трэба хутчэй сушыць, а там — у стагі...

Але асабліва вызначалася моладзь на касавіцы. Калгасныя сенажаці далёка — за сем, дзесяць і нават восемнаццаць кіламетраў. З касой і торбачкай за плячыма туды штодзень не пойдзеш. Трэба ехаць на тыдзень і больш, арганізаваць работу. У калгасе былі створаны камсамольска-маладзёжныя звенні па нарыхтоўцы кармоў. У брыгадзе Міхася Анісенкі такое звяно ўзначаліў Уладзімір Доўбыш. Касілі ў Яменцы, лясным і балоцістым кутку Палесся. Балота яшчэ не асушанае, купіна на купіне, з касілкай па ім не паедзеш. Але не кідаць-жа травы, кармоў трэба шмат.

Наперадзе касцоў Міхась Анісенка. За ім Алесь Кардаш, былы брыгадзір. Ён цяпер працуе ў анісенкавай брыгадзе. Шырока расставіўшы ногі, стары мерна ўзмахвае касой, хоча не адстаць ад Міхася. У поўдзень, калі вышэй паднялося сонца, Кардаш кінуў касу і сеў пад куст.

— Не спраўлюся, брат, з табой, узмакрэў увесь, — кажа ён. — Пайду хіба ля старых стану...

Сенажаць скасілі за чатыры дні. З сіласам анісенкава брыгада не адстала таксама. Уладзімір Доўбыш абкасіў усе межы і палявыя дарогі. Стары Барыс Амельчанка не паспяваў цэментаваць ямы...

Раніцамі калгасныя палі спавіты ледзь прыкметнай смугою. А днём, калі прыгрэе сонца, палетняму пераліваецца, дрыжыць паветра, клубіцца пыл над палявой дарогай. Але пара восені ўжо чутна. У кронах прыдарожных таполяў, нібы подых старасці, з'явілася жоўтае лісце. Вечарамі гулка падаюць на дол пераспеўшыя антонаўкі.

З палёў збажына ўжо сабрана. Не змаўкаючы і ўначы, гудуць на таках малатарні. Транспартнае звяно, якое ўзначальвау камсамолец Альберт Караткевіч, даўно ўжо адвезла апошнюю тону хлеба на дзяржаўны пункт.

Восень блізка. Можна ўжо зараз падвесці сякія-такія вынікі настойлівай рабоце калгаснікаў.

— Збажына, брат, у цябе крыху лепшая, — гаворыць Міхасю Анісенку Павел Раянок. Яны стаяць каля свірна, дзе ўвішныя дзяўчаты працуюць на трыеры. — І сіласу ў цябе, лічы, ужо два планы будзе. Што-ж, малады́м у нас дарога...

— А старым пашана, — жартуе Міхась. — Затое бульба, махорка і лён у цябе лепш не трэба. Мне аж крыўдна неяк.

— Так, бульба добрая, — згаджаецца Павел.

**Калгас імя Молатава Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці.**

**М. КЛІМКОВІЧ**

# Галасы маладых

У Совецкім Саюзе, дзе няўхільна павышаецца колькасць людзей з сярэдняй і вышэйшай адукацыяй, дзе з кожным годам пашыраецца лік бібліятэк, цяга моладзі да літаратурнай творчасці — з'ява зусім зразумелая. Гэтаму спрыяе блізкасць нашай літаратуры да жыцця, вырашэнне героямі літаратурных твораў зразумелых і блізкіх чытачу задач у такіх-жа блізкіх і зразумелых абставінах. Маладому пісьменніку зусім натуральна здаецца, што ён зможа справіцца з жыццёвым матэрыялам, які яго акружае, і зможа пераплавіць яго ў мастацкія вобразы. Дадайце да гэтага азнаямленне вучняў у сярэдняй школе з пачаткамі тэорыі літаратуры, работу літаратурных гурткоў у школах і тэхнікумах, канферэнцыі чытачоў з глыбокім разглядам мастацкага твора, які зацікавіў усіх, выступленні ў друку і на літаратурных вечарах поруч з прафесіянальнымі пісьменнікамі маладых пісьменнікаў, — і перад вамі раскрыецца глеба, якая жывіць масавы літаратурны рух у наш час.

Каб уявіць сабе аб'ём гэтага масавага літаратурнага руху, варта прыгадаць хоць-бы той факт, што толькі праз кансультацыю пры Праўленні Саюза совецкіх пісьменнікаў БССР за апошнія паўтара года было дадзена адказаў на 3000 вершаў, на 20 паэм, на 150 празаічных твораў (сярод якіх былі раманы і аповесці), на 130 аднаактавых і многаактавых п'ес. А наколькі-ж павялічыцца гэтая лічба, калі дадаць сюды ўсе тыя вершы, апавяданні, мастацкія нарысы, рэцэнзіі, аднаактоўкі якія дасылаліся нашай літаратурнай моладдзю ў часопісы «Полымя», «Беларусь», «Маладосць», «Бярозка», «Вожык», «Работніца і сялянка», у альманах «Советская отчизна», у рэспубліканскія, абласныя, гарадскія і раённыя газеты, у насценныя газеты навучальных устаноў і прадпрыемстваў! Само сабой зразумела, што не ўся гэтая прадукцыя з'яўляецца літаратурнымі творамі, вартымі апублікавання. Але калі нават адсеяць тых, якія пакуль што не выявілі літаратурных здольнасцей і пасылалі свае творы ў парадку праверкі наяўнасці ў сябе гэтых здольнасцей, калі адсеяць тых, якія часова ўключаліся ў літаратурную працу,—усё-ж застанецца досыць значны атрад людзей, галоўным чынам моладзі, якая не без падстаў бачыць у літаратурнай працы сваё прызванне. Гэты атрад — рэзервы Саюза совецкіх пісьменнікаў, якія па сваёй колькасці ўжо зараз разы ў два-тры перавышаюць колькасць яго членаў.

Маладыя пісьменнікі — і тыя, якія прыняты ў Саюз, і тыя, якія, як гэта гаворыцца, «чакаюць сваёй чаргі» (дарэчы сказаць, часамі яны чакаюць гэтай чаргі незаканамерна доўга!), нядрэнна праявілі сябе ў беларускай літаратуры. Чытачам, напрыклад, падабаюцца вершы Аляксея Пысіна як сабраныя ў кнізе «Наш дзень», так і тыя, якія друкаваліся ў часопісах і газетах. Малады паэт паказаў добрую назіральнасць, уменне бачыць у жыцці і выбіраць з яго найбольш характэрныя дэталі і рысы, праз якія можна раскрыць сутнасць жыццёвай з'явы або паказаць характар новага, соцыялістычнага чалавека. Так, разглядаючы жоўтыя надрэчныя пяскі, намолатыя леднікамі, і сярод іх вялікія крамянёвыя валуны, што не скарыліся леднікам і не сталі ні пяском, ні сыпучымі дзюнамі, паэт прыгадвае «нязломны лёс» свайго совецкага пакалення, якое, як той крэмень, не крышыцца ні пад якімі выпрабаваннямі (верш «Крэмень»). У шэрагу звычайных бытавых з'яў, звязаных з дзяцінствам (верш «Навырост»), паэт бачыць падрыхтоўку совецкімі людзьмі светлай будучыні наступным пакаленнем, веру ў творчыя сілы гэтых пакаленняў. Радковыя пасевы, мурожная рунь на полі здаецца паэту радамі арміі, што ідзе парадам «пад алы сцяг зары», урачыста салютуючы «зялёнымі клінкамі» тым, хто апроч добрых зерняў уклаў у глебу «расінкамі і хлебаробаў пот» (верш «Усходы»). Рэчавая, бачная вобразнасць характэрна для ўсіх вершаў Пысіна. Яна дапамагае паэту ў кароткім лірычным вершы або ў такой-жа кароткай пейзажнай замалёўцы глыбей выявіць свае адносіны да перадаваемай з'явы, зрабіць яе простай і ў той-жа час поўнай глыбокага сэнсу, павучальнай і цікавай.

Гэтым мастацкім прыёмам карыстаецца не толькі А. Пысін. Мы знойдзем яго ў большасці вершаў Петруся Макаля («Мой брат», «Дом» і ў радзе іншых вершаў са здадзенага ў друк першага зборніка паэта «У дарогу»), у Сцяпана Гаўрусёва («На полі бою», «Пярэдні край», «За Дунайскімі хвалямі», «Шчасце») таксама ў здадзеным у друк першым зборніку «Паходныя кастры», у

**Н. ГІЛЕВІЧ**

## Камбайнер

Сэрца б'ецца неспакойна,
Ледзь не выскачыць з грудзей:
Першы раз ён самастойна
Карабель свой павядзе.

Скончыў курсы у раёне
Шчасця юны гаспадар.
На яго зажынках сёння
Быў райкома сакратар.

А яшчэ, знарок нібыта,
Пагля дзець на агрэгат —
Добра жне ці мо' на ўбытак —
Шмат сабралася дзяўчат.

І між іх — адна ў касынцы
Пурпуровай, як зара, —
Тая самая, што сніцца
Юнаку па вечарах...

Хлопец позіркам абводзіць
Неабсяжны далягляд.
Капітан стаіць дый годзе
Ля штурвала карабля!

Пры народзе на дзяўчыну
Ён украдкаю зірнуў
І павёў сваю машыну
У густую збажыну.

Самаходны ўдаль памкнуўся,
І юнак на нейкі міг
Азірнуўся, усміхнуўся:
Толькі ёй, або да ўсіх?..

Хвалі жыта карагодзяць,
Як у моры за кармой.
А дзяўчына воч не зводзіць,
Ціха шэпча: «Любы мой!..»

## Шчасце

Вясёлы, узрушаны, нават замнога,
На ганак высокі падняўся ён шпарка.
Ён проста гукнуў прадаўшчыцы з парога:
— Прадайце букет мне — вялікі і яркі!..

Жанчына ўсміхнулася — цёпла, прыветна:
— Што-ж, гэткую просьбу не ўважыць не можам...
І вось ён на вуліцу выбег з букетам —
З вялізным, як куст, і надзвычай прыгожым.

А што за патрэба? Якая прычына?
Куды ён спяшае, прахожым надзіва?
Ды першага сына, маленькага сына
Жаданага жонка яго нарадзіла!

З духмянай вясною ідзе прывітаць ён
Жыццё маладое, прышоўшае ўранні,
Падзякаваць маці... а ўдзячнасць для маці —
У шчасці яго, у яго хваляванні.

Марка Смагаровіча («Зорка шчасця», «Кісет»), Уладзіміра Нядзведскага («Дома», «Мая радасць»), Браніслава Спрынчана, Алега Лойкі, Міколы Арочкі, Ніла Гілевіча і ў шмат каго з маладых паэтаў. Зразумела, падабенства формы, — а яно не ва ўсіх маладых паэтаў аднолькавае, — яшчэ не робіць іх аднолькавымі падобнымі адзін да другога. Моцны бок Спрынчана, напрыклад, у тым, што не толькі тэматыка яго кароткіх лірычных вершаў, але і іх вобразная сістэма звязана з жыццём, побытам, рабочай абстаноўкай, інтарэсамі індустрыяльнага рабочага. Гэтага не заўважаецца ў П. Макаля, але пачуцці гэтага маладога паэта ў яго кароткіх лірычных вершах значна больш нюансіраваны, кола яго інтарэсаў шырэйшае. Ды і самі дэталі ў яго больш скандэнсаваныя і трапныя. Варта ўспомніць верш «Мой брат», дзе перададзены пачуцці савецкіх людзей перад помнікам герою Вялікай Айчыннай вайны. Верш заканчваецца надзвычай трапнай дэталлю:

А ён рукой нас прывітаць
не можа:
Трымае зброю воіна рука,
Бо чуе ён
За морам брэх варожы, —
І палец не адводзіць ад курка.

Высокай ацэнкі заслугоўвае глыбіня і ўмельства, з якімі перададзена П. Макалём пачуццё кахання ў вершы «З думкай аб табе». У гэтым вершы юнак з захапленнем кажа сваёй каханай, што ён заўсёды думае пра яе і што гэта дапамагае яму працаваць, марыць і здзяйсняць свае мары. Каханне раскрывае перад закаханымі такія «расшытыя зорамі далячыні», якія толькі закахаlnаму відны». Паэт аспрэчвае ўстарэлае разуменне, што каханне, як усепаглынальнае пачуццё, можа «засланіць цэлы свет». Паэт кажа:

Не засланіла,
А адкрыла ты мне цэлы свет!

Тут дарэчы сказаць аб тэме кахання ў творчасці маладых. Як правіла, гэтай тэмы наша паэтычная моладзь кранаецца і нясмела і не заўсёды ўдала. Калі чытаеш верш маладога паэта аб каханні, ствараецца часамі такое ўражанне, што ён не давярае свайму пачуццю, і ў перадачы яго больш арыентуецца на знаёмыя яму вершы паэтаў старэйшага пакалення. Але і ў старэйшага і ў сярэдняга пакалення паэтаў вершы якраз на гэтую тэму таксама не заўсёды могуць служыць узорамі. Гэта можна заўважыць у цыкле «На народныя матывы» Артура Вольскага — маладога здольнага паэта, аўтара раду дробных вершаў («Сустрэча», «Вяртанне»). У гэтым-жа цыкле паэт прымушае дзяўчыну чакаць з выяўленнем сваіх пачуццяў перад падругамі, пакуль яе каханы «не перагаворыць» з яе таткам. Нехапае аднаго, каб запазычваючы матыў старай песні, паэт прыцягнуў яшчэ і «блаславенне маладых» у свой верш аб сучаснай моладзі.

Побач з добрымі лірычнымі вершамі пра каханне (Ніл Гілевіч «У дзявочым інтэрнаце», Марк Смагаровіч «Эх, туманы мае, растуманы», П. Макаль «Я і ты», «Я ішла дадому», С. Гаўрусёў «Арка над вакзалам») сустракаюцца ў маладых паэтаў вершы беспачуццёвыя, абыякавыя (Ул. Кулакоў «Ліст да дзяўчыны», Б. Лунькоў «Ты ідзеш сцяжынкай палявой») або вершы з зусім неахайнай формай сказаў (С. Гаўрусёў «Бібліятэкарша»).

Як станоўчае трэба адзначыць, што маладое пакаленне паэтаў з выразнай «пячаткай свайго часу» адлюстроўвае сучасную вёску з яе калгасным ладам і тэхнічнай узброенасцю. З гэтай паэзіі зусім зніклі такія атрыбуты ранейшай паэзіі, як васількі, лучына, злая доля. У лексіцы маладых паэтаў поўнасцю ўжываецца палітычны і бытавы слоўнік сучаснага перадавога чалавека. Часцей у творчасці маладых сталі з'яўляцца творы на рабочую тэматыку. Тэма працы, тэма міру, тэма партыі як кіруючай і накіроўваючай сілы ў міжнародным і ўнутраным жыцці нашай краіны гучаць у творчасці маладых з такой-жа сілай, як і ў творчасці старэйшых пісьменнікаў. Аднак мы не можам прайсці міма таго факта, што маладыя паэты часамі не ўмеюць данесці сваю правільную ідэю ў належнай мастацкай форме. Часта правільныя па задуме вершы выглядаюць як незавершаныя эскізы для будучай карціны (напрыклад, верш «Каб збыліся мары» П. Макаля, «Клуб» М. Смагаровіча і інш.). Часам-жа трапляюцца і зусім бяздумныя вершы, у якіх нават цяжка адшукаць тэму і пачуццё.

Многае з вышэй сказанага датычыцца не толькі паэтаў, але і маладых празаікаў і драматургаў. Наша крытыка і чытацкая грамадскасць нядрэнна ацаніла аповесць А. Карпюка «У адным інстытуце», апавяданні на рабочую тэму Яўг. Васілёнка, апавяданні П. Васілеўскага, М. Ваданосава, п'есы Л. Гатальскай, В. Зуба, А. Махнача, хоць творчасць іх стаіць, як любіў калісьці казаць Кузьма Чорны, «на парозе свайго развіцця». Будзем спадзявацца, што з дапамогай старэйшага пакалення (дапамогай, якая пакуль што была нездавальняючай) творчасць маладых пераступіць гэты свой парог і беларуская літаратура атрымае новае таленавітае папаўненне. Будзем спадзявацца, што ў гэтым маладым пісьменнікам дапаможа II Усесаюзны і III Беларускі з'езды пісьменнікаў, якія аддадуць патрэбную ўвагу і самой творчасці маладых і рабоце з імі. Зарука далейшага росту маладых — іх шчыльная сувязь з жыццём. Пра гэтую сувязь добра сказаў П. Макаль у вершы «Мая песня»:

Сама ты не прыходзіш да мяне,
Цябе штодзень я па радку збіраю
Там, дзе праходзіць плуг па
цаліне,
Там, дзе камбайн сярод жытоў
ныраe,
Там, дзе дваіх світанне застае,
Дзе салавей рассыпаў спеў
срабрысты...
Бясконцыя сааўтары мае —
Садоўнікі, прарабы, трактарысты.

Ул. НЯДЗВЕДСКІ

## На партызанскім аэрадроме

Навакол цішыня.
Толькі чутна уранні,
Як калоссі шумяць
На шырокай паляне.
Зашумяць і паклон
Хіляць бору старому,
Дзе прапелер відзён
Па-над аэрадромам.
Ён, як кветка, стаіць
На высокім кургане.
Мужны сокал там спіць
З маладым партызанам.

І калі у бары
Восень вытча узоры,
Зноў палаюць кастры,
Зноў гудуць тут маторы.
Трактарыст малады,
Меншы брат партызана,
Між сябрамі тады
Тут стаіць ля кургана.
Ён кранае рукой
Лопасць кветкі магутнай,
І у пушчы лясной
Гул прапелераў чутны.

М. СМАГАРОВІЧ

## Імяніннік

Імяніннік аграном сягоння.
Споўнілася трыццаць год яму...
Збажына высокая на гонях
Б'е паклон гаспадару свайму.
І пшаніцы залатое мора
Коціць хвалі аж за небакрай.
Па бяскрайніх жніўеньскіх прасторах
Зашумеў багаты ураджай.
Тут належыць аграному слава.
Працаваў ён дбала больш за ўсіх...
Кажуць людзі, што даўно ўжо ў справах
Перарос ён трыццаць год сваіх.

З. ВАГЕР

## Ураджай

Ледзь вясна кранула наваколле
І пайшла прасторамі гуляць —
Вышлі мы на сонечнае поле
Зерні шчасця дружна рассяваць.

Працавітых рук не шкадавалі,
Да зары ўставалі кожны дзень,
Каб звінела поле жытняй хваляй,
Быццам песня радасных людзей.

А цяпер, як паглядзіш навокал, —
Мора жыта легла з краю ў край...
Як прыемна сёння твайму воку
Бачыць гэты слаўны ураджай.

Каласы пшаніцы, як літыя,
Золатам паблісквають палі...
Недарэмна-ж зоркі залатыя
Нам за іх рыхтуюць у Крэмлі.

М. АРОЧКА

## Дзічка

Прыгожая восенню дзічка у полі,
Бо восень для дзічкі — цудоўны мастак.
На ёй адшукаеш усякі ты колер,
Ды смачнага плоду не знойдзеш ніяк.

Наблізішся — вострай калючкай зачэпіць:
Прахожы заўсёды мінае яе.
А ў садзе — яе аднагодка-прышчэпа
Людзям жоўтабокія бэры дае.

А з дзічкі на дол вецер лісце цярушыць...
Прыгожа!.. Ды толькі я лепш быў-бы рад,
Калі-б давялося за сопкай ігрушай
Прыйсці да яе гэткай восенню ў сад.



Мал. Е. Ганкіна.

**А. АСІПЕНКА**

# Пастух

**Апавяданне**

Адразу-ж пасля сходу зарачанскія хлопцы і дзяўчаты пайшлі дамоў. Не адстала ад іх і Зіна. Сцяпан выбег, спадзеючыся, што Зіна, як бывала, пачакае крыху, каб ён дагнаў яе і праводзіў дадому. Але ў яе сёння быў нейкі абыякавы выгляд. Знарок, падкрэсліваючы гэтую абыякавасць, яна ўзяла пад руку Івана Жыковіча і загаварыла ўголас, каб чуў Сцяпан:

— Пойдзем, Ваня, у нядзелю да абухаўцаў. У іх заўсёды весела бывае, не тое, што ў нас.

Сяброўка Зіны Вера Чудзіна, заўважыўшы, што Сцяпан усё-ж ідзе следам, штурхнула пад локаць Зіну і знарок высокім голасам зацягнула прыпеўку:

Ой, навошта, хлопча, ходзіш,
Спадзяваешся дарма,
Да цябе цяпер кахання
У душы маёй няма.

Усё гэта вельмі здзівіла Сцяпана, бо некалькі дзён назад ён з Зінай ішоў з вечарынкі і вельмі шчыра размаўляў.

«Няўжо яна пакрыўдзілася за ўчарашняе? Наплявузгала, рыжая, — падумаў Сцяпан, абвінавачваючы ў разладзе Веру Чудзіну. — Можа Зіна і не ведае, што ў пятую брыгаду мы хадзілі з Клавай правяраць дагавор».

Сцяпан спыніўся, паглядзеў на зарачанцаў і вярнуўся дадому. У хаце яшчэ гарэў агонь. Маці вымятала з печы памялом попел. Сцяпан моўчкі скінуў боты, паставіў іх на ўслон.

— Заўтра разбудзіш мяне на золаку, — папрасіў ён маці.

— Куды табе ў такую рань?

— Паганю кароў у поле.

Маці абаперлася на тонкае доўгае памялішча і з жалем паглядзела на Сцяпана.

— А маё ты дзетухна, ці-ж гэта работа маладому? Няўжо ў нас старых няма?

— Так камсамольскі сход вырашыў.

— Чаму-ж абавязкова цябе ўзялі? Ці мала ў калгасе камсамольцаў?!

— Каго-небудзь усёроўна трэба было выбіраць.

— Я-ж табе казала — не лезь наперад. Дык ты не паслухаў...

Сцяпану адразу-ж успомнілася ўся гісторыя прызначэння яго пастухом. Спачатку думалі паслаць на ферму Івана Жыковіча. Але перад самым сходам ён прынёс у камітэт комсамола цэлы жмутак даведак ад урачоў і ганарыста паклаў яго перад сакратаром пярвічнай камсамольскай арганізацыі. Члены камітэта ведалі, што ў Івана ніякіх хвароб няма, а даведкі ён дастаў праз свайго дзядзьку, які працуе ў раённай бальніцы, аднак раней прынятае рашэнне прышлося перагледзець. Вось пасля таго і была вылучана кандыдатура Сцяпана.

— Хопіць, мама, — незадаволена сказаў Сцяпан. — Сам ведаю, што раблю, не маленькі.

Старая махнула рукой: рабі, як ведаеш. А Сцяпан узяў пасцілку, вышаў у сенцы і палез спаць на гару.

На гары было цёмна і душна. Нагрэтае за дзень паветра ахалоджвалася паволі. Сцяпан разаслаў пасцілку на самаробным тапчане, лёг. Адразу-ж да слыху данесліся querрознастайныя гукі: над страхой шапацела лісце асіны, недзе ў кутку звінела муха, трапіўшы ў павуціннe, заваркаваў і змоўк голуб.

«А можа і мне трэба было-б адмовіцца? Сорамна неяк за каровамі бегаць. Смяяцца яшчэ пачнуць», — думаў Сцяпан, ужо засынаючы.

Ён уявіў сабе згорбленую постаць калгаснага пастуха дзеда Сілявея, у лапцях, з малахаем на галаве і доўгай берасцянай дудкай у руках. Дзед павярнуўся на адной назе, падміргнуў Сцяпану і нечакана запеў дзявочым голасам:

Не здзіўляйцеся, дзяўчаты,
Што я з мілым не іду:
Мой мілёнак такі ціхі,
Хоць вядзі на паваду.

Прыпеўка раптам абарвалася, дзед знік за квяцістай заслонай, недзе ўверсе бліснуў чырвоны агеньчык і патух, шэры туман ахутаў усё.

«Гэта-ж дзяўчаты з клуба ідуць», — падумаў Сцяпан праз сон.

Маці ледзь расштурхала Сцяпана: ён нешта мармытаў, нацягваў на галаву пасцілку, адбіваўся рукамі і нагамі. Прачнуўся толькі пасля таго, калі пачуў матчыны словы:

— Хутчэй! Я табе ўжо вопратку падрыхтавала. На лаўцы ляжыць.

Сцяпан ніяк не мог адважыцца апрануць на сябе рызманы, якія тут ляжалі. У рудой, выцвіўшай світцы адно крысо было абсмалена, штаны, якія ён насіў гады чатыры назад, былі вузкімі і ледзь ліпелі, у кепцы быў паламаны казырок, зашмальцаваны аколыш. І да ўсяго гэтага пад лаўкай стаялі, вышчарыўшы цвікі, два вялікія, не па назе чаравікі.

Хоць рызманы ўсе былі чысценькія і мелі даволі прыстойны выгляд, Сцяпан нахмурыўся, уявіўшы сябе ў такім убранні.

— Не буду я іх апранаць.

— Што ты, сынок, якраз добра! Па хмызняках бегаючы, за адзін дзень вопратку парваць можна.

— Па-твойму, калі стаў пастухом, дык па-людску і апрануцца нельга?

— Я-ж і кажу, не для маладога гэтая работа. А нарэшце, як хочаш, — маці сабрала вопратку. — Шкада толькі, што час патраціла, ледзь свет паднялася, гузікі прышыла, усё выпыліла.

Сцяпан моўчкі ўзяў з яе рук вопратку: не хацелася крыўдзіць старую.

Пад выпас быў адведзены вялізны кавалак балоцістай зямлі. На ім амаль усюды расла невысокая асака, а на купінах чырванеў тонкасцяблісты зязюльчын мох. Над куп'ем з пранізлівым кігіканнем насіліся чорнакрылыя кнігаўкі, над мелкай з ілістым дном рэчкай Паланіцай па-авечаму крычалі бакасы.

Сцяпан прыгнаў сюды кароў, калі сонца ледзь толькі паднялося над чарапічнымі дахамі фермаў. Тут, у нізе, было вільготна і таму холадна. Рэдкі, як дым, туман падымаўся ўгору, расплываўся над лесам маленькімі воблачкамі.

Сцяпан пугаўём збіў з купіны расу, сеў. Каровы паволі і, здавалася, нават нехаця скублі асаку.

«Адкуль тут малако будзе», — падумаў Сцяпан, успомніўшы сваю размову з даяркамі.

І даяркі, і загадчык фермы Сідар Квач, відаць, з прыходам Сцяпана на ферму вельмі спадзяваліся на свае будучыя поспехі.

Дачка Сідара Клава, такая-ж, як і бацька, смуглявая, сінявокая, дапамагаючы адвязваць і выганяць кароў, увесь час гаварыла аб тым, што з-за дзеда Сілявея, які дагэтуль быў пастухом, яна не магла ўзняць надоі.

— Сцёпачка, міленькі, пастарайся добра напасвіць маіх кароў. Не давай ім ляжаць. Красуня і Рэпка могуць цяпер не менш чым па трыццаць літраў малака за дзень прынесці.

Сцяпан ведаў, што калі Клава што-небудзь наважыцца, дык лепш паабяцаць адразу, бо ўсёроўна яна ад цябе не адчэпіцца. Таму ён запэўніў яе, што няхай не хвалюецца за Красуню і Рэпку.

Сідар Квач прайшоў са Сцяпанам аж да самых выгарак, якімі пачыналася паша, і таксама ні то прасіў, ні то загадваў добра глядзець кароў, каб яны не ляжалі, не бегалі па выпасу, у час напіліся.

— Мае дзеўкі, дарагі таварыш, дрэнна зарабляюць. Падымем удоі, і табе прэмія будзе, ясна.

«Будзе прэмія, — са злосцю думаў Сцяпан. — Не маглі лепшага месца для пашы знайсці». Раптам ён адчуў, што ў кішэні пінжака ляжыць нейкі цвёрды кулёк. Разгарнуў яго і здзівіўся: там была драбкамі звычайная соль. Як яна туды трапіла, ён ніяк не мог уцяміць. І толькі тады, калі, навязаўшы кулёк на кій, саліў мокрую ад расы асаку, успомніў, што Клава нешта клала яму ў кішэню, але ён не звярнуў на гэта ўвагі.

«Стараецца дзяўчына, каб яе каровы давалі больш малака», — падумаў ён.

Падсоленую траву каровы скублі, выстраіўшыся ў роўную шарэнгу, абганяючы адна другую. Толькі Рэпка ўвесь час бегала на паўднёвы край пашы.

— Ну і памаўзлівая карова, каб на яе ліха!

Ён загнаў Рэпку ў статак, але ўжо праз хвіліну яна зноў ішла па пашы, узняўшы рогі. Куды яна пойдзе?

Рэпка спынілася каля самых пасеваў і пачала скубсці там.

— Ага, і ты разумееш, дзе смачна. У-у-у, хітрая, як і гаспадыня. Тая толькі пра сябе і думае, — гаварыў Сцяпан, зноў заганяючы Рэпку ў статак.

І раптам ён уявіў Клаву. Успомнілася, як яны правяралі дагаворы ў пятай брыгадзе. Клава, забраўшыся з нагамі на крэсла, нізка схілілася над сталом, і яе валасы ўвесь час казыталі твар і шыю Сцяпана. Ад іх па-асабліваму пахла мылам і нейкай памадай. Тады Сцяпану быў прыемны гэты пах. Цяпер ён пастараўся адагнаць ад сябе назойлівыя думкі пра Клаву.

А Рэпка, пакуль ён змагаўся са сваімі ўспамінамі, зноў пабегла на сухадольную траву. Сцяпан крыкнуў на яе разы са два, але яна не вярнулася. Тады ён сабраў статак і пагнаў яго ўслед за Рэпкай.

На новым месцы прысесці было амаль немагчыма, бо кругом была шкода. Сцяпан хадзіў па сцежцы, якая аддзяляла пашу ад пасеваў, і час-ад-часу, калі каровы падыходзілі да пасеваў, гулка ляскаў пугайдратаванкай.

Сцяпан і не заўважыў, як тут, на сцежцы, з'явілася Зіна. Куды яна ішла? Можа ў горад? У моднай кофце з маленькімі кішэнямі на грудзях і вельмі шырокімі рукавамі. Чорная бліскучая спадніца з мноствам дробных складак прыгожа аблягала зграбны стан. На белай, незагарэлай руцэ блішчэў маленькі гадзіннік і пярсцёнак. Сцяпан першым заўважыў Зіну. Спачатку ў яго радасна закалацілася сэрца, а потым, неяк выпадкова глянуўшы на свае чаравікі з загнутымі насамі, ён адчуў, што рудая, з абсмаленым крысом світка рэжа пад пахамі, што цесныя штаны не даюць яму ступіць кроку. Сцяпан стаяў і моўчкі чакаў, калі Зіна падыйдзе да яго. Але яна, заўважыўшы Сцяпана, збочыла і пайшла па траве. Тады Сцяпан, забыўшыся пра свой убор, паклікаў яе.

— Зіна, Зіна, пачакай!

Дзяўчына зрабіла выгляд, што не пачула, але пайшла намнога хутчэй.

— Пачакай, Зіна! — яшчэ раз паклікаў Сцяпан і, убачыўшы, што яна не спыняецца, кінуўся наўздагон.

Дагнаў ён яе ля самай рэчкі.

— Мне пагаварыць з табой трэба, Зіна.

Яна спынілася, моўчкі глянула на яго безуважлівым, халодным позіркам шэрых вачэй.

— Дарэмна ты пакрыўдзілася, Зіна. Я, чэснае слова, не вінаваты. Ты думаеш, я хадзіў правяраць дагавор, каб з Клавай пабыць? Навошта яна мне? Ты Веру не слухай, яна любіць пазводзіць.

Зіна моўчкі капала наском мадэльнага туфліка зямлю.

— Якая ты, Зіна, недаверлівая, — голас Сцяпана задрыжэў. — Я-ж табе ніколі не хлусіў. Сама ведаеш. Ды каб я на гэтым месцы праваліўся, калі ўсё было не так, як я кажу.

Зіна склала губы трубачкай, паціснула плячыма.

— Навошта ты ўсё гэта гаворыш? Між намі ўсё скончана. Мы больш з табой ніколі не сустрэнемся і не хадзі за мной.

— Чаму? — разгубіўся Сцяпан.

— Цябе-ж не толькі людзі, а і вераб'і могуць спалохацца. Пудзіла!

Яе твар скрывіла пагардлівая грымаса.

— Каб любіў мяне так, як кажаш, дык не пайшоў-бы кароў пасвіць.

Яна пакінула збянтэжанага Сцяпана і амаль подбегам перайшла кладку цераз раку.

Сцяпан стаяў, не мог нават паварухнуцца. «Дык вось, выходзіць, што яно ўсё азначае! Вось у чым прычына разладу! К ліху ўсё! Не буду ў поле ганяць... хопіць з мяне. Сёння-ж падам заяву».

Загнаўшы кароў на стойла ў полудзень, ён прышоў дамоў і, не распранаючыся, сеў пісаць заяву. «Прашу вызваліць мяне ад пасады пастуха ў сувязі з тым, што я...»

Сцяпан задумаўся: што напісаць, якую знайсці прычыну? Што яго пакінула Зіна? Што ёй не падабаецца яго работа? Напісаць, што хворы? Ці можа яшчэ што? Але-ж ён сам абураўся паводзінамі Івана Жыковіча, нават выступаў на сходзе супраць яго, называў дэзерцірам. Выходзіць, цяпер дэзерцір ён. Але чаму іменна ён павінен ахвяраваць сваім каханнем, а не хто-небудзь другі. Зіна самая прыгожая дзяўчына ў калгасе. Яна такая гордая. Колькі Сцяпан пахадзіў, паўздыхаў, пакуль яна звярнула на яго ўвагу! І вось цяпер усё загінула. А яшчэ зусім нядаўна, можа дзён пяць назад, яны стаялі ля брамкі зінінай сядзібы. Тады Зіна была такая ласкавая, а яе пацалункі былі гарачыя і прагныя. У Сцяпана чырванню загарэліся шчокі, перасмяглі вусны. Ён узяў ручку і, закрэсліўшы «ў сувязі з тым, што я...», дапісаў: «бо я зразумеў, што працаваць пастухом можа і непрацаздольны, а я магу прынесці большую карысць на іншым, больш важным участку».

Старшыні калгаса ў канцылярыі якраз не было. Сцяпан паклаў заяву перад рахункаводам. Той на хвіліну адарваўся ад лічыльнікаў, глянуў паверх акуляраў на Сцяпана, потым скасавурыў вочы на заяву і зноў падняў іх на Сцяпана.

— Добра, перадам старшыні. На наступным праўленні разгледзім.

— А калі яно будзе?

— На тым тыдні ў аўторак, а можа ў пятніцу, — абыякава сказаў рахункавод.

«Чакай цяпер.. трэба было адразу адмовіцца».

На наступны дзень раніцай Сцяпан прышоў на ферму амаль на гадзіну пазней звычайнага. Яшчэ здалёк ён заўважыў, што даяркі ўжо даўно падаілі кароў і цяпер стаяць вакол чорнага, як грак, Сідара Квача.

«Сварыцца будуць, — падумаў Сцяпан і тут-жа вырашыў: — Ну, і няхай. Усёроўна працаваць не буду». Але Сідар толькі і сказаў:

— Заспаў, Ягоравіч, ясна. Справа маладая.

А Клава, калі Сцяпан пайшоў выганяць кароў, з удзячнасцю паглядзела на яго і, спяшаючыся, загаварыла:

— Я ўчора, Сцёпа, больш за ўсіх малака надаіла. Дзякую, што кароў маіх добра напасвіў...

Яна дапамагла прагнаць кароў аж на самую пашу.

Сцяпан застаўся адзін. Сеў ля купіны, стаў слухаць, як маркотна крычыць бакас. Яго крык аддаляўся, і аддаляўся, пакуль зусім не заціх у далечыні...

Статак разышоўся па пашы. Сцяпан сабраў кароў, загнаў іх да самага балота, але толькі прысеў, як клаўчыны Красуня і Рэпка зноў павялі статак туды, дзе ўчора пастух так смачна карміў іх.

— Куды, куды пайшлі! — закрычаў Сцяпан.

Каровы спыніліся, нехаця павярнулі назад, відаць, памяталі яшчэ трохххвостую пугу дзеда Сілявея. Але ўжо праз хвіліну ўсё паўтарылася спачатку.

— Пачакайце-ж, — раззлаваўся Сцяпан. — Я вас прывучу. Вы ў мяне будзеце ведаць...

У поўдзень ён злазіў на гару, дастаў некалькі жменяў ільнянага



атрэп'я, накруціў пут і, як толькі прыгнаў кароў у поле, самых шкадлівых каротка спутаў. Цяпер увесь статак паволі хадзіў між куп'я, і Сцяпан адчуваў сябе спакойна. Каровы, крыху паскубшы травы, леглі адпачываць, бо путы моцна рэзалі ногі. Непадалёку ад іх лёг і Сцяпан. Ён нават пашкадаваў, што не ўзяў з сабой якой-небудзь кнігі.

Дні два ўсё ішло добра. Толькі даяркі коса пазглядалі на Сцяпана, але ён не звяртаў на гэта ўвагі. Аднойчы, прыгнаўшы кароў на пашу, ён лёг пад купіну і адразу-ж заснуў. Прачнуўся ад таго, што хтосьці трос яго за каўнер світкі.

— Вось у чым справа, мой міленькі! Ах ты, абібок! Гэта-ж дзед Сілявей не быў такім гультаём. Разлёгся, не раўнуючы, як тая Маланння Зазуліха.

Гэта асабліва пакрыўдзіла Сцяпана. Маланння Зазуліха была апошняя на сяле жанчына.

Сцяпан ашалела ўскочыў. Перад ім стаяла Клава. Яна ўзялася ў бакі і пагардліва глядзела на Сцяпана.

— Што гэта табе, міленькі, курорт тут! Можа хочаш пад парасонам адпачываць? Для чаго цябе камітэт пасылаў сюды, забыўся? Дык мы табе напомнім.

— Ну, вось што, ты мяне не палохай. Я, можа, сам заяву падаў, каб вызвалілі ад гэтай работы. Хопіць, самі пасіце.

— Міленькія мае, з глузду з'ехаў. Ды хто-ж гэта будзе рашэнне комсамольскага сходу адмяняць?

— Мне да таго справы няма. Я за каровамі хадзіць не буду.

Клава глядзела цяпер спагадліва і нават, як здалося Сцяпану, з жалем.

— Што ты на мяне так глядзіш, быццам я праз хвіліну ў багне захліпнуся?

— Я нічога, Сцёпа. Хочаш, нават не буду гаварыць, што застала цябе спячага?

— Дзякую, можаш гаварыць.

Сцяпан быў цвёрда ўпэўнены, што як толькі ён кіне пасвіць кароў, Зіна зноў будзе кахаць яго па-ранейшаму. Вось чаму яму не цярпелася хутчэй сустрэцца з ёю і пагаварыць шчыра пра свае пачуцці і планы. У той-жа дзень Сцяпан вырашыў пайсці ў Абухава, дзе мелася быць вечарынка.

Наспех павячэраўшы, ён старанна адпрасаваў касцюм, прыгладзіў непаслухмяныя валасы і пайшоў на зарачанскі бок. Ішоў шпарка, і толькі тады, калі за паваротам паказалася знаёмая хата з разложыстай ліпай перад ёю, запаволіў хаду, і хоць стараўся не падаць выгляду, але ўсё-ж з надзеяй пазіраў на вокны. Вось-вось зараз адхінецца фіранка і за ёю з'явіцца Зіна. Яна закіне касу і, не ўзнімаючы на яго вачэй, скажа:

— Куды ты, Сцёпа, адзін?

Але ў акне ніхто не з'явіўся. Тады Сцяпан стаў глядзець праз плот у двор. З будкі вылез кудлаты сабака і радасна замахаў хвастом, убачыўшы Сцяпана.



«А можа яна не пойдзе да абухаўцаў?» — падумаў Сцяпан. — Тады чаго-ж і мне туды ісці».

Ён нечакана для самога сябе піхнуў нагой брамку, зайшоў на двор. У крайнім акне мільганула зініна постаць.

«Ёсць», — радасна падумаў Сцяпан і, адразу павесялеўшы, пайшоў у хату.

У сенцах яго сустрэла зініна маці.

— Да нас, Сцёпа?

— Так.

— Шкада, Зіны няма.

Сцяпан ледзь не папярхнуўся. «А можа я памыліўся? — падумаў ён, — можа гэта сапраўды была не Зіна».

— Тады прабачце. Куды-ж яна пайшла?

— Сама не ведаю.

Зініну матку Сцяпан не любіў за яе хітры характар. Таму, як толькі яны развіталіся, падумаў: «Пэўна, збрахала старая. Не хоча, каб я да Зінкі хадзіў. А мне напляваць. На зло ажанюся і забяру Зіну да сябе».

У галаве Сцяпана нечакана паспеў план: дачакацца, пакуль Зіна выйдзе з дому.

З боку гарода, там, дзе ад хаты выходзіла сцежка, рос пышны куст парэчак. Некалі пад ім на два каменьчыкі Зіна паклала невялікую дошку. Тут Сцяпан часта праседжваў да самай раніцы ў абдымку са сваёй каханай. Цяпер дошкі ўжо не было, але каменьчыкі ляжалі. Сцяпан прысеў на большы з іх і стаў чакаць.

Зіна выйшла з хаты не адна. Як і заўсёды, з ёю была Вера Чудзіна і Дуся Кавалюк. Усе яны былі ў аднолькавых сукенках, у аднолькавых на вельмі высокім абцасе чырвоных туфлях. Дзяўчаты прадаўжалі, відаць, пачатую ў хаце размову.

— А маці як да гэтага ставіцца? — спыталася Дуся.

Зіна гулліва адказала:

— Маці задаволена. Ну, самі падумайце, дзяўчаткі, за каго ў нас замуж пойдзеш? Хлапчукі!.. Ды і наогул, што за радасць заўсёды жыць у калгасе?

— Сцёпку назаўсёды пакінула? І не шкада? Прызнайся, Зіна.

Зіна бесклапотна засмяялася.

— Ён-жа ў рэзерве быў.

— Хітрая ты, Зінка, аж завідкі бяруць, — з захапленнем загаварыла Вера, абнімаючы сяброўку. — Умееш галовы хлопцам дурыць.

— Сідарава Клаўка будзе цяпер рада. Яна-ж са Сцёпкі вачэй не зводзіць.

— Для даяркі лепшага не знойдзеш. Як кажуць, па Сеньцы шапка, а па гаршку пакрышка. Пара будзе.

Дзяўчаты зарагаталі і пайшлі. Сцяпану захацелася дагнаць іх і вылаяць апошнімі словамі. Але замест гэтага ён сядзеў і толькі тады, калі далёка на ўскрайку вёскі Вера Чудзіна запела частушку, ён падняўся і пайшоў у супроцьлеглы бок. Яго душыла злосць на сябе, на Зіну, на Веру. Каб хоць крыху супакоіцца, ён ішоў вельмі шпарка, не заўважаючы вакол нічога.

— Сцёпа, куды ты так бяжыш? — спыніў яго клавін голас. — Зайдзі да нас.

— Няма часу, — буркнуў у адказ Сцяпан.

— Заходзь, заходзь! — у другім акне паказалася чорная галава Сідара.

Сцяпан у нерашучасці спыніўся.

— Ды ты не саромся. Чаго там! Свае...

— Я не саромлюся, — сказаў Сцяпан і пайшоў у хату.

У каморцы чуўся прыглушаны шэпт і смех дзяўчат. Але Клава правяла Сцяпана ў святліцу. Там за сталом сядзеў Сідар і незнаёмы Сцяпану чалавек.

— Прысаджвайся да стала, Ягоравіч, — запрасіў гаспадар Сцяпана.

Тое, што Сідар называў так Сцяпана, вельмі цешыла сцяпанаў гонар, асабліва цяпер, калі яму была нанесена знявага. Сцяпан сеў, паглядаючы на незнаёмага.

— Гэта мой брат Пахом, — растлумачыў Сідар. — Таксама, як мы, жывёлавод. Толькі, брат, ён вучоны, акадэмік, ясна.

Сцяпан чуў пра сідаравага брата, ведаў, што ён працуе ў Мінску, але бачыў яго ўпершыню. Акадэмік з першага погляду спадабаўся Сцяпану.

— Дык давайце павячэраем, — прапанаваў Сідар.

— Я ўжо вячэраў, таму дзякую, не буду, — паспрабаваў дзеля выгляду адмаўляцца Сцяпан.

— Адну талерку не пашкодзіць.

Яны селі. Акадэмік запытаў:

— Дык ты, значыць, Ягора Піліпчука сын. Малайчына, што пастухом пайшоў. Трэба нам, брат, выцягваць жывёлагадоўлю. Адсталі мы з ёй, вельмі адсталі. Жывёла непрадукцыйная, надоі нізкія. Часам не карова, а каза на ферме стаіць. Адна радасць, што план пагалоўя выкананы. Няправільная практыка. Калгасу трэба план па малаку, мясу, воўне даводзіць. А то па галовах. З галавы малака не надоіш.

— Гэта ясна, — азваўся Сідар.

— Паша ў нас дрэнная. Вось каб яе засеяць травой, тады іншая справа. — Сцяпан выказаў тую думку, што ўзнікла ў яго яшчэ ў першы дзень работы пастухом, і якую ён так дасюль і не выказаў.

— Вось, вось, слушна, вельмі нават, — падхапіў акадэмік. — Я-ж табе, Сідар, памятаеш, тады пісаў: калі пастухамі, даяркамі, свінаркамі будуць працаваць пісьменныя людзі, дык стануць творча адносіцца да працы. Бачыш, у Сцяпана Ягоравіча ўжо з'явіўся свой план палепшання выпасаў. Мы-ж нядаўна на пасяджэнні Акадэміі навук разглядалі пытанне аб тым, як усе пашы зрабіць добрымі. Як бачыш, і навука, і практыка маюць адну думку.

— Гэта ясна, толькі Ягоравіч нас пакідае, заяву ў праўленне калгаса падаў. Кажуць, што знайшліся такія калгаснікі, якія пачалі кпіць з яго. Вось хлопец і не вытрымаў.

Сцяпану захацелася, каб вось зараз-жа праваліласа падлога або абвалілася столь. Было сорамна перад акадэмікам за сваю міжвольную слабасць. Трэба-ж Сідару іменна зараз павесці такую непрыемную размову. Вось зараз акадэмік паглядзіць на Сцяпана і скажа: «Што-ж ты, Сцяпан Ягоравіч, слухаеш усякую лухту?». Але Пахом Раманавіч загаварыў пра другое.

— Ёсць у нас такія людзі: сала любяць, малако ядуць, валёнкі носяць, а працу жывёлавода не паважаюць. І нам, Сцяпан Ягоравіч, не па шляху з імі. Вось так.

У пакой забегла Клава.

— Сцёпа, пойдзем з намі ў Абухава. Усе нашы дзяўчаты ідуць.

— Забіраеце Ягоравіча? Справа, вядома, маладая, ясна. Глядзі, Сцяпан, дзяўчаты нашы баявыя!..

Сцяпан нерашуча падняўся з-за стала. Ён успомніў, што ў Абухаве абавязкова будзе і Зіна і з ёй прыдзецца там сустрэцца. Як-жа там трымаць сябе? Сцяпану здавалася, што цяпер яму будзе сорамна паглядзець ёй у вочы.

— Пайшлі, пайшлі, Сцёпа, — загаманілі дзяўчаты.

— Хадзем, — рашуча сказаў Сцяпан.

Сустрэцца з Зінай яму давялося раней, чым ён думаў. На поўдарозе да Абухава на мосце цераз раку стаялі Зіна з двума сяброўкамі і Іван Жыковіч. Усе чацвёра весела размаўлялі, смяяліся, асабліва, Зіна.

— Бачыце, саламяная інтэлігенцыя стаіць, — усміхнулася Ліда, прыёмшчыца малака.

Сцяпан адчуваў сябе вельмі няёмка, і гэта адразу-ж убачылі дзяўчаты. Клава ўзяла Сцяпана пад руку. Тыя, што стаялі на мосце, заўважылі манеўр Клавы. Вера Чудзіна выступіла наперад і пад балалайку, з якой рэдка разлучаўся Іван Жыковіч, зацягнула прыпеўку, накіраваную супраць Сцяпана:

Нашы дзеўкі у сельпо
Куплялі нарады.
Залучылі пастуха
Дык таму і рады.

Сцяпан адчуў, як у яго зноў нарастае гнеў.

— Верка задзіраецца, а ну, Ліда, адкажы ёй! — прапанавала Клава.

Ліда, маленькая, кругленькая, як клубочак, запела тонкім, прыемным голасам:

Цячэ рэчка, цячэ рэчка
У сіняе мора,
Два гады шукае Зіна
Мужа гарадскога.

Усе зарагаталі. Сцяпан думаў, што Вера збянтэжыцца. Але яна не здавалася.

Я пашыла сабе кофту
З сінім бантам на грудзях.
Мой мілёнак некультурны,
Сорам быць з ім на людзях.

Тады Ліда, не задумваючыся, адпарыравала:

Не фарсі, што ты прыгожа,
І сукенка з шоўку.
Ўсёадно з цябе няма
Ніякага толку.

Не паспела Ліда закончыць, запела цялятніца Зося Крук:

Белым цветам на паляне
Зацвіла суніца.
Пагуляе з Верай хлопец,
Скажа, што дурніца.

Вера Чудзіна хацела адказаць прыпеўкай, але Зіна злосна глянула на яе. Яны пачакалі, пакуль Сцяпан з дзяўчатамі перайшлі мост, і павярнулі назад.

Праз некалькі тыдняў увечары Сцяпан пагнаў кароў на летнюю дачу, якую па парадзе акадэміка Квача зрабілі для жывёлы. Каля прыёмшчыцы Ліды сабраліся ўсе даяркі. Да Сцяпана першай падбегла Клава.

— Сцёпачка, міленькі, ты нічога яшчэ не ведаеш? Надоі ў два разы ўзняліся.

Яна закружыла Сцяпана вакол сябе.

— Мы табе на восьмага сакавіка падарунак паднясем.

Дзяўчаты зарагаталі.

— Не, сапраўды, няхай усе ведаюць, як мы цябе паважаем.

— Пакуль вы збіраецеся, дык я зараз хачу паднесці, хоць не падарунак, але вельмі патрэбную рэч.

Толькі цяпер Сцяпан заўважыў тут старшыню калгаса.

— Вось табе, Сцяпан Ягоравіч, спецвопратка. Усыпаў нам акадэмік за цябе, і правільна. Бачыш вось, выпраўляем памылку. Ну як, не хочаш цяпер кідаць гэтую работу? Ці, можа, усё яшчэ думаеш? Заява ў мяне ляжыць.

— Аддайце мне заяву, Андрэй Паўлавіч, — папрасіў Сцяпан.

— Ну, не, даражэнькі, пачакай. Я з цябе яшчэ паздзекуюся. Вось калі ўвесь час добра будзеш працаваць, дык у канцы года я яе прачытаю ўсім. Сапсую ўрачыстасць...

— Які вы, Андрэй Паўлавіч. Не трэба яго крыўдзіць, — Клава прытулілася да рукі Сцяпана. — Аддайце заяву цяпер.



В. БАБРОВІЧ

# У ДОБРЫ ЧАС

Нарыс



**Камбайнавы агрэгат вядзе Сямён Петрыкевіч. За работай сына ўважліва сочыць бацька — Ілья Ануфрыевіч.**

За вокнамі імжыў асенні дождж. Хоць быў яшчэ толькі пасляабедзенны час, у класе стаяў прыцемак. Але святло запальваць не хацелася, ды і не было калі. Рабяты сядзелі поўкругам, прыцiснуўшыся адзін да аднаго. Ішоў камсамольскі сход. Толькі быў ён не зусім звычайны. Не было ні прамоўцаў, ні выступаючых, ні крытыкуючых, ды нават і прэзідыума не было. У класе ішла цёплая, сардэчная гутарка вучняў старэйшых класаў з механізатарамі Гарадзейскай МТС.

Спачатку дырэктар школы Сцяпан Адамавіч Крэмез расказаў вучням аб рашэннях вераснёўскага Пленума Цэнтральнага Камітэта КПСС аб політэхнізацыі навучання ў школах. Пасля таварышы з МТС расказвалі аб сваёй працы. Вось і ўсё. Здаецца — нічога асаблівага. Але дзень гэты з'явіўся пераломным у жыцці многіх і многіх з тых, што прысутнічалі на сходзе.

«Справа ясная, — гаварылі іх позіркі. — Цяпер мы ведаем, што нам рабіць. І чаму гэта мы раней не здагадаліся?»

Гутарка яшчэ працягвалася, а старшакласнікі, нібы па камандзе, ужо зарыпелі пер'ямі па паперы.

«Я — камсамолец. Статут ВЛКСМ патрабуе ад мяне выконваць указанні роднай Комуністычнай партыі...» — старанна выводзіў адзін.

«Прашу залічыць мяне ў гурток камбайнераў пры Гарадзейскай беларускай сярэдняй школе...» — лаканічна выказваў сваю просьбу другі.

На першыя заняткі яны прыйшлі ў суботу, у шэсць гадзін вечара. Многія з іх жылі далёка ад школы, часам за некалькі кіламетраў, але нягледзячы на гэта, прыйшлі ўсе 29 слухачоў новага гуртка. У час з'явіўся і выкладчык па хадавой частцы камбайна, лепшы механік МТС комсамолец Павел Хмяльніцкі.

Па школьнаму звычаю, усе стоячы віталі новага настаўніка. Гэта, відавочна, збянтэжыла Паўла. У яго памяці яшчэ свежыя былі ўспаміны аб гэтай школе, дзе ён сам вучыўся. Многіх сваіх слухачоў ён ведаў асабіста. Нейкая незвычайная, ніколі раней нязведаная баязлівасць апанавала юнаком. І дзіўная справа — не было куды дзець рукі: ён то засоўваў іх у кішэні, то пачынаў перакладваць на стале з месца на месца рэчы. Але раптам, нечакана нават для самога сябе, Павел гучна і спакойна сказаў:

— Кіраваць нашым гуртком будзе галоўны інжынер МТС Канстанцін Паўлавіч Варанкоў. Усім весці запісы яго і маіх урокаў, чарціць схемы, бо падручнікаў мала.

Так пачаліся заняткі ў гуртку камбайнераў.

У той вечар вучань дзевятага класа комсамолец Тадэуш Булдык вярнуўся дамоў позна. Па слізкай, набрынялай вадою дарозе ісці было цяжка. Ды Тадэуш і не спяшаўся. Многа думак сабралася за дзень у галаве, — усё трэба было абдумаць, узважыць. Яшчэ да апошняга часу Тадэуш не ведаў, куды падацца яму пасля дзесяцігодкі. Цяпер-жа, асабліва пасля сённяшніх заняткаў у гуртку, ён цвёрда ведаў: яго месца — за штурвалам камбайна! І чыстыя, светлыя мары прыходзілі на змену адна другой, прымушалі часцей біцца сэрца.

Заняткі ішлі сваёй чаргой два разы ў тыдзень. Насталі дні практычных заняткаў. Добрыя гэта былі дні, радасныя. Пад кіраўніцтвам вопытных механікаў-камбайнераў школьнікі разбіралі, рамантавалі і чысцілі самаходныя камбайны «С-4». Справы ішлі спорна. Радаваліся механізатары: ажно 29 маладых, старанных, хоць і не зусім яшчэ кваліфікаваных майстроў далучыліся да іх дружнай працоўнай сям'і!

Праўда, былі ў рабят і непрыемнасці. На іх чыстую, старанна адпрасаваную маткай вопратку так прыліпаў мазут, што за тры дні яна зрабілася зусім чорнай. Маткі пагражалі маладым механікам пускаць іх у МТС толькі ў трусіках, бо, — казалі, — хто-ж гэта намыецца на іх... Больш за ўсіх, бадай, пападала Адаму Дайліду. Каб лепш пазнаёміцца з той ці іншай часткай камбайна, ён прыносіў асобныя дэталі дамоў: змазваў іх, чысціў, а то і паяў.

— У пакоі стаяў такі «водыр», што хоць з хаты ўцякай, — успамінае маці Адама.

Хлопцаў навучылі, што трэба рабіць, каб пазбегнуць гэтых непрыемнасцей. Яны парабілі сабе тумбачкі і на час работы ў МТС хавалі туды чыстую вопратку.

— Папярэджваю вас, рабяты, — звярнуўся да іх аднойчы дырэктар МТС Шэўчэнка. — Раней як у пяць гадзін прыходзіць у майстэрню забараняю. Вам-жа належыць працаваць не больш, як адну гадзіну ў дзень.

Але хлопцы ўсёроўна прыходзілі раней. Тады Шэўчэнка пачаў правяраць дзённікі паспяховасці. Калі ў чым-небудзь дзённіку выяўлялася тройка, ці яшчэ горш — двойка, будучаму камбайнеру тут-жа камандавалі: «Кругом! Вучыць урокі!» Таму кожны імкнуўся паспяваць і ў школе, і ў МТС.

Надышлі экзамены ў школе. Заняткі ў МТС на гэты час прыпыніліся. Але дружба вучняў і механізатараў не перарвалася. Галоўны інжынер Канстанцін Варанкоў і камбайнер Павел Хмяльніцкі часта заходзілі да сваіх вучняў.

— Ну як? Троек няма?

У сваю чаргу школьнікі цікавіліся:

— Ці ўсё там у парадку, у МТС? Камбайны сумуюць па нас?

І вось адны экзамены ззаду, а другія — наперадзе. На гэты раз за экзаменацыйным сталом Канстанцін Варанкоў, Павел Хмяльніцкі, абодва дырэктары — школы і МТС. Упэўнена і дакладна адказваюць навучэнцы. Тут-жа стаіць матор камбайна. Калі ласка — разбірай, збірай, запраўляй, уключай. А гэты-ж матор быў нягодны, спрацаваны. Вучні самі аднавілі яго, прыстасавалі для патрэб вучобы.

Адзнакі ў кожнага — толькі «чатыры» і «пяць».

— Ну, а цяпер хто-ж куды пойдзе? — спытаў пасля экзаменаў дырэктар школы Сцяпан Адамавіч Крэмез.

Гэтае пытанне нікога не застала знянацку. Кожны ўжо даўно выбраў для сябе шлях.

Выпускнікі Аляксандр Хмелек, Павел Яськевіч і яшчэ некаторыя падалі заявы ў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію. Восем дзесяцікласнікаў падаліся ў іншыя сельскагаспадарчыя інстытуты. Веды, якія набылі яны ў гуртку камбайнераў, вельмі і вельмі спатрэбіліся ім.

— Добрай вам дарогі, сябры! — ад шчырага сэрца гаварылі ім механізатары і ўсе вучні школы.

А астатніх гуртукоўцаў можна было зноў бачыць на эмтээсаўскай сядзібе, — яны хадзілі тут з выглядам гаспадароў: іх залічылі ў штат МТС! Тых, што скончылі дзесятыя класы — на сталую работу, маладзейшых — на часовую.

Вучань восьмага класа Сямён Петрыкевіч разам са сваім бацькам-камбайнерам старанна працаваў на рамонце самаходнага ўборачнага агрэгата. Надышоў дзень, і бацька сказаў сыну:

— Ну, баявы памочнік, пакажы, на што мы здатныя!

Камбайн, кіруемы бацькам і сынам Петрыкевічамі, крануўся з месца і, плаўна пагойдваючыся, пайшоў усё далей і далей. І тады следам за ім рушылі ў наступленне астатнія стэпавыя караблі. На многіх з іх горда сядзелі школьнікі. Барацьба за хлеб пачалася з іх дапамогай.

Надвячоркам па магістралі, што бегла ўздоўж поля, дзе працавалі Петрыкевічы, паказаўся матацыкл. Ён імчаў з вялікай хуткасцю. Каля агрэгата матацыкліст рэзка затармазіў і крыкнуў:

— Стой, глушы матор!

Камбайнеры пазналі ў ім сакратара райкома камсамола Фаму Кабяка.

— Нельга, мы спаборнічаем з экіпажам Хмяльніцкага, — запярэчыў Сямён, але, убачыўшы нейкую асаблівую ўрачыстасць на твары сакратара райкома і галоўнага інжынера, юнак выканаў загад.

— Ты ведаеш, Сямён, — наш гурток камбайнераў зацвердзілі на Усесаюзную сельскагаспадарчую выстаўку, — хвалюючыся, сказаў Варанкоў.

«Вось яно што... Гэткая чэсць!»

— Зараз-жа да дырэктара! — прадаўжаў Варанкоў. — Адпусціш яго, бацька?

— Калі такая справа... хіба будзеш супярэчыць... — голас у бацькі прыкметна дрыжэў.

А на сядзібе МТС сабраліся ўжо ўсе гуртукоўцы. Прыйшлі вольныя ад работы механізатары, вучні сярэдняй школы. Атрымалася нешта накшталт кароткага мітынгу.

— Вам ёсць з чым паехаць на выстаўку, дарагія сябры, — гаварыў дырэктар МТС. — Камбайнавыя агрэгаты, якія вы абслугоўваеце, выканалі ўжо гадавыя нормы і зараз працуюць звыш задання.

Гром апладысментаў шугануў над сядзібай МТС. А дырэктар прадаўжаў:

— Дзякуй вам, вялікае дзякуй, дарагія рабяты! Збірайцеся ў Маскву. У добры час!

**Гарадзейская МТС**
**Нясвіжскага раёна.**




Янка МАЎР

Навукова-фантастычная аповесць

Мал. В. Ціхановіча.

### 1. ТАЕМНЫЯ ПАСЛАНЦЫ

Дзень і ноч лютуе пурга. Неба перамяшалася з зямлёй. Хоць у гэтую пару года на далёкай Поўначы сонца зусім не сыходзіць з неба, але тут, на зімоўцы, чацвёрты дзень працягвалася ноч. Будынкі зімоўкі на сваім вяку многа разоў бачылі пургу, але такой, як гэтая, мусіць, не бачылі. Уся зімоўка была занесена снегам. Нават галоўны двухпавярховы дом быў занесены з абодвух бакоў. Зімоўшчыкі, як відаць, за гэтыя дні не раз працярэблівалі выйсце з яго і праход да надворных будынкаў, але снег усёроўна засыпаў іх зноў. Толькі мачта радыёстанцыі ўздымалася ўверх. І з гэтай мачты ляцелі на Вялікую зямлю радыёхвалі:

«Трэці дзень у нас пурга. Гідролаг Кузьменка пры смерці. Выратаваць можа толькі ўліванне крыві. Група першая. Яе ў нас няма»...

Было гадзін шэсць вечара. У вялікім пакоі ніжняга паверху сядзела два чалавекі: метэаролаг Юшкевіч і загадчык гаспадаркі, ён-жа паляўнік, чукча Чардун. Яны сядзелі моўчкі, пазіраючы то на занесенае снегам акно, то на трохі прыадчыненыя дзверы аднаго з пакояў. Адтуль чулася цяжкае дыханне, хрып, а часамі і стогн хворага чалавека.

— Каб не гэтая праклятая пурга, то сёння мог-бы прыляцець самалёт... — ціха сказаў Чардун. — А калі пурга спыніцца, то можа... будзе і позна.

— Усё можа быць, — уздыхнуў метэаролаг.

Пачуўся рып лесвіцы, што вяла ў верхняе памяшканне. Адтуль спускаўся радыст Цімохін, самы малады і самы высокі з зімоўшчыкаў.

— Радыёграму пасылаў разоў дзесяць, — сказаў ён і, зірнуўшы на дзверы ў пакой хворага, спытаў: — А там як?..

— Тое-ж самае, — адказаў Юшкевіч.

Цімохін на цыпках падышоў да дзвярэй, прасунуў галаву, пастаяў некалькі хвілін і таксама на цыпках вярнуўся назад і сеў за стол.

Зноў настала цішыня, калі не лічыць завывання пургі. Але людзі, здавалася, зусім не чулі яе. Ціканне насценнага гадзінніка было для іх больш чутным, бо яны часта пазіралі на яго. А стрэлкі пасоўваліся так марудна, што, здавалася, яны стаяць на месцы. Праклятая пурга спыніла не толькі жыццё зімоўкі, але і час. Час цяпер вымяраўся не гадзіннікам, а рэвам завірухі. Калі спыніцца яна, — прыляціць самалёт, і чалавек будзе жывы, а калі не, то прыдзецца вось гэтак сядзець і чакаць яго смерці.

З пакою хворага выйшла маладая жанчына ў белым халаце, са стомленым тварам, з прыпухлымі вачыма. Усе пільна глянулі на яе, а яна ў адказ толькі сказала:

— Тое самае...

Урач Людміла Антонаўна была жонкай хворага. Сашчапіўшы пальцы рук, яна пачала хадзіць узад і ўперад па пакоі.

Такое чаканне было пакутай. Метэаролаг сказаў сваім таварышам:

— Пойдзем, працярэбім яшчэ раз праход.

І мужчыны пайшлі ў сенцы. Асцярожна адчынілі дзверы, і з ганку шуснула ў сенцы гурба снегу. Мужчыны ўзяліся за работу. Людміла Антонаўна зноў пайшла да хворага.

Калі мужчыны вярнуліся назад, гадзіннік паказваў палову восьмай. З пакою хворага даносіўся хрып і войканне... На дварэ, як і раней, лютавала завіруха. Раптам Чардуну здалося, што за акном праз белы слой снегу мільганула нешта цёмнае, нібы птушка праляцела. Чардун уздрыгнуў, прыглядзеўся, але нічога не сказаў: ці мала што магло яму здацца?

Прайшла яшчэ хвіліна і... на дварэ нібы пачуліся галасы! Ды яшчэ дзіцячыя?!.

Тут ужо ўсе трое падскочылі і пачалі прыслухоўвацца. І тады выразна данёсся да іх хлапечы голас:

— Эй! Адчыніце дзверы!..

Зімоўшчыкі зірнулі адзін на аднаго амаль ашалелымі вачыма і на некаторы час не маглі ні пасунуцца з месца, ні сказаць слова. Тады знадворку пачуліся ўжо два галасы:

— Адчыні-іце-е дзве-е-ры!

Мужчыны кінуліся ў сенцы, адчынілі дзверы на ганак і пачалі разграбаць снег. А за гэтым снегам зноў пачулася:

— Не турбуйцеся, мы самі заедзем у сярэдзіну. Мы малыя.

Зімоўшчыкі, зусім знямелыя ад здзіўлення, маглі выціснуць з горла толькі нейкія невыразныя гукі: а!.. э!.. о!..

Тым часам праз дзверы мякка і лёгка шаснула нейкая чырвоная машына. Яна апынулася ў сенцах, не зачапіўшы з сабой ніякага снегу.

— Зачыняйце дзверы! — скамандаваў з машыны той-жа хлапечы голас.

Тым часам у сенцы прыбегла Людміла Антонаўна. І ўсе ўбачылі перад сабой нейкі маленькі аўтамабіль з маленькімі прапелерамі спераду і ззаду і маленькімі крыламі, больш падобнымі на птушыныя, чым на самалётныя. Па баках можна было заўважыць літары: «ФЦ-2».

З кабіны вылезлі хлопчык гадоў пятнаццаці і дзяўчынка гадоў трынаццаці. Апрануты яны былі ў лёгкае вучнёўскае адзенне. На дзяўчынцы была сукенка з чорным фартушком і піянерскі гальштук на шыі, а на хлопцу — штаны і каўбойка. На галовах нічога не было, як улетку.

Убачыўшы гэта, Людміла Антонаўна зусім забылася на незвычайнасць самога факта і адразу закрычала:

— Вы-ж замерзлі! Хутчэй у хату!

Яна ўхапіла іх за рукі і пацягнула ў сярэдзіну памяшкання. А мужчыны ўсё яшчэ стаялі і нават баяліся дакрануцца да сваіх незвычайных гасцей. У дзяўчынкі ў руках быў нейкі скрутак. Хлопчык узяў з яе рук гэты скрутак і падаў Людміле Антонаўне:

— Вось вам кроў, якую вы прасілі, — сказаў хлопчык.

Ва ўсіх зімоўшчыкаў вырваўся крык здзіўлення, Людміла-ж Антонаўна схапілася за сэрца і пахіснулася. Радыст падхапіў яе і пасадзіў у крэсла. Праз хвіліну яна ўстала, схапіла скрутак і пабегла да хворага.

— Пётр Іванавіч, прашу на дапамогу! — крыкнула яна па дарозе.

Радыст пайшоў за ёю. Па ўсім было відаць, што яму вельмі не хочацца пакідаць гасцей, якія «зваліліся» з неба і з'яўлення якіх ніякі розум не мог-бы растлумачыць.

— Мы сваю справу зрабілі і можам адпраўляцца дадому, — сказаў хлопчык і павярнуўся да дзвярэй; за ім павярнулася і дзяўчынка.

Гэтага ўжо ніхто не чакаў! Кожны з зімоўшчыкаў быў упэўнены, што дзеці павінны ў іх пабыць, пагрэцца, адпачыць, што можна будзе пагаварыць з імі, распытаць, хто яны, адкуль, як сюды трапілі і што гэта за машына такая. А яны зараз-жа адпраўляюцца назад!

Не толькі метэаролаг і Чардун, але і радыст, і Людміла Антонаўна, якая пачула гаворку і выбегла з пакою хворага, пачалі прасіць дзяцей, каб яны хоць трохі пабылі з імі.

Але таемныя пасланцы не згадзіліся. Яны селі ў сваю машыну, чамусьці надзелі на галовы нейкія каўпакі і папрасілі адчыніць дзверы з сенцаў. З вялікай неахвотай адчыніў Чардун дзверы, і незвычайная машына, нібы цень, знікла праз іх. Ніякага следу, ні шуму, ні гуку не было. Некалькі хвілін стаялі разгубленыя зімоўшчыкі ля расчыненых дзвярэй, пакуль снег, холад і вецер не прымусілі іх зачыніць дзверы і вярнуцца ў хату.

— Што-ж гэта такое? — прашаптала Людміла Антонаўна і нават правяла рукой па вачах.

— Мусіць, сон... — прамармытаў Чардун.

— Які-ж гэта сон, калі прэпарат крыві ў нашых руках! — усклікнуў радыст. — Паглядзіце добра, Людміла Антонаўна, ці сапраўдны ён?

— Я ўжо разгледзела, — адказала яна. — Самы сапраўдны. Не будзем цяпер ламаць галаву над загадкай, а хутчэй зробім уліванне.



І яна з радыстам зноў пайшла да хворага. Пасля ўлівання крыві хворы заснуў спакайней. І Людміла Антонаўна ўздыхнула лягчэй. Зімоўшчыкі маглі, нарэшце, пагаварыць аб тым, што здарылася на іх вачах. Але што было гаварыць, калі ніякі розум не мог-бы зразумець гэткі цуд!

— Яны-ж апынуліся тут не болей як праз дзве гадзіны пасля маіх радыёграм, — задумліва сказаў радыст. — Як можна было справіцца за такі час, ды яшчэ ў завіруху? Мы самі не маглі-б знайсці нават свой дом, каб апынуліся за сотню метраў ад яго... І што гэта за нябачаная машына? Адным словам, нічога не зразумееш...

— Гэта, мусіць, нейкая таемная сіла напусціла нам у вочы туману, — баязліва сказаў Чардун.

— Добры туман, калі ад яго застаўся ў руках канкрэтны прэпарат, — прамовіў метэаролаг. — Людміла Антонаўна, падумайце добра, можа вы нічога не ўлівалі хвораму?

— Навука ведае, — сказала яна, гледзячы некуды ў цёмны кут, — выпадкі, калі галюцынацыяй бывалі ахоплены цэлыя групы людзей. Такія выпадкі бывалі. Можа і з намі гэта здарылася? Можа мы праз некаторы час ачуняем?.. Нічога не разумею...

Але яны не ачунялі ні сёння, ні заўтра, ні паслязаўтра. А хвораму зрабілася значна лепш.

— Ці казаць аб гэтым каму-небудзь? Ці распытваць?.. — раіліся яны.

— Я паспрабую спытаць, — сказаў радыст.

— Не, не! Не трэба! — замахала рукамі Людміла Антонаўна.

— Такое пытанне пасылаць па радыё... афіцыйна... Ды нас на смех падымуць ва ўсім свеце...

Замест таго кожны з іх напісаў сваім блізкім на Вялікай Зямлі пісьмо з апісаннем незвычайнага здарэння. Але большасць адказаў зводзілася да слоў:

— Не раім піць занадта многа.

А калі прайшлі тыдні і месяцы, то і самім ім пачало здавацца, што нічога такога не было...

## 2. ДЗЕД І ЎНУКІ

У глухім завулку невялікага гарадка Н. за высокай агарожай стаіць стары драўляны дом на паўтара паверхі: ніжні паверх з чатырох вялікіх пакояў з верандай, над ім памяшканне пад страхой, таксама з верандай. Вакол усяе сядзібы, як вартаўнікі, стаяць высокія таполі, ліпы, клёны, а ў сярэдзіне растуць старыя, крывыя яблыні. Увесь дом хаваецца ў дрэвах: ціха, утульна ў гэтым кутку і прахожых мала і праезджага рэдка ўбачыш.

У гэтым доме больш за пяцьдзесят гадоў жыве стары вучоны Пётр Трафімавіч Цылякоўскі. У ніжніх пакоях размяшчаецца яго сям'я, а сам ён увесь свой век праводзіць наверсе, дзе ў яго ні то лабараторыя, ні то майстэрня, ні то музей, а дакладней — усё разам. Асабліва многа мадэляў розных дзівосных машын: нейкіх незвычайных самалётаў, дырыжабляў, ракет і такіх прыладаў, якім і назвы не падбярэш. Над страхой уздымаецца вышка, дзе знаходзіцца тэлескоп: Пётр Трафімавіч заўсёды сябраваў з нябеснымі свяціламі.

Няма ў горадзе жыхара, які не ведаў-бы прывабнага старога чалавека з сівой барадой і парасонам у руках. Старажылы памятаюць Пятра Трафімавіча яшчэ з часоў царызма як настаўніка гімназіі, які ўвесь свой заработак траціў на навуковыя доследы, не маючы ні ад каго ніякай дапамогі. Маладыя ведаюць дзядулю Цылякоўскага, як вядомага ўсяму свету савецкага вучонага, які мае ўсе магчымасці займацца сваёй любімай навукай. Хадзілі чуткі, што ён вынайшаў розныя дзівосныя машыны, на якіх можна было ляцець на Месяц ці на Марс. Многія ў горадзе проста лічылі яго дзіваком, фантазёрам, але казалі аб гэтым без насмешкі, з любоўю.

Тыя, хто з ім знаёміўся бліжэй, больш за ўсё захапляліся яго дабратой і чыстатой душы. Здавалася, нішто нядобрае, што ёсць на свеце, ні разу не дакранулася гэтага васьмідзесяцігадовага чалавека. І яшчэ адна асаблівасць здзіўляла кожнага — гэта ўнутраная маладосць Пятра Трафімавіча. Не толькі сталыя, але і маладыя людзі, нават дзеці адчувалі сябе з ім як роўны з роўным, як са сваім блізкім таварышам.

Ішлі гады, палысела галава, пасівела барада, зморшчкі пакрылі твар, а сам ён нібы не змяніўся: такімі самымі жывымі заставаліся яго вочы, таксама блізка да сэрца прымаў ён усе з'явы жыцця — хваляваўся за рэвалюцыю ў Кітаі, захапляўся вялікім планам пераўтварэння прыроды, абураўся непаладкамі ў гарадскім транспарце і інтрыгамі амерыканскіх капіталістаў, перажываў чужое гора і чужыя радасці, радаваўся поспехам сацыялістычнага будаўніцтва і гаварыў пра будучае так, нібы яму яшчэ заставалася жыць прынамсі гадоў сто.

Адна толькі бяда была: такой энергіі яму хапала на гадзін дзвятры, а потым адчувалася патрэба адпачыць, падрамаць. Але праз поўгадзіны ці нават меней ён ужо зноў быў маладым на некалькі гадзін.

У Пятра Трафімавіча была вялікая сям'я, але дзеці даўно павыраслі і разышліся па сваіх шляхах. Яны толькі прыязджалі з сем'ямі ў свой родны дом у часе водпуску. Жонка Пятра Трафімавіча даўно памерла. Цяпер жыла з ім малодшая дачка Ніна Пятроўна з двума дзецьмі — трынаццацігадовай дачкой Святланай і пятнаццацігадовым сынам Светазарам. Бацька іх, ваенны інжынер, загінуў у часе Вялікай Айчыннай вайны, і яны перасяліліся да дзеда.

Дзед моцна любіў сваіх унукаў, цешыўся з іх. Вучыліся яны вельмі добра, дзяўчынка ў шостым класе, а хлопчык у восьмым. Ніхто не меў ад іх ніякіх непрыемнасцей. Яны былі цікаўныя і чыталі шмат кніг. Таму і вучыцца ім было лёгка. Нават можна сказаць, што занадта многа чыталі яны кніг. Жывучы адасоблена, яны неяк адлучыліся ад сваіх таварышаў і ўвесь вольны час праводзілі ў сваім зацішным кутку разам з дзедам. Дзед пяшчотна называў іх «светлячкамі», ахвотна займаўся з імі і стараўся перадаць ім свае веды і мары. А ведаў і мараў у яго было столькі, што хапіла-б на тысячу чалавек!

Прыціснуўшыся адзін да аднаго, стаіўшы дыханне, Светазар і Святлана слухалі яго, як зачараваныя. Апавяданні дзеда пераносілі іх то ў цудоўны горад будучыні, то ў сібірскую тайгу, то на Месяц, то ў гістарычную мінуўшчыну, то на поўднёвы полюс...

— Фантазія, — казаў дзед, — вялікая сіла! Без фантазіі самы светлы розум быў-бы сляпы. Чалавек бачыў-бы толькі тое, што ў яго перад вачыма, да чаго ён можа дакрануцца рукою, а фантазія асвятляе шлях наперад на такую адлегласць, на якую не дасягне ніякі пражэктар. Яна дае магчымасць бачыць тое, чаго яшчэ няма. Вынаходца, ствараючы новую машыну, ужо загадзя бачыць і выгляд яе і работу. Архітэктар можа паказаць нам дом, які яшчэ не пачыналі будаваць. Вучоны, даследуючы прамені далёкіх зорак і планет, можа расказаць аб іх так дакладна, нібы ён сам там пабываў. Савецкі народ яшчэ пачынаеператвараць стэпы і пустыні ў багатыя, урадлівыя землі, саджае лясы, капае каналы, а вы ўжо можаце бачыць на малюнках, які выгляд яны будуць мець. Усё гэта магчыма толькі дзякуючы фантазіі. Ніякія веды не могуць быць ведамі без уяўлення, гэта значыць, без той-жа самай фантазіі.

У расчыненыя дзверы, віляючы хвастом, прыбег сабака і стаў лашчыцца да дзеда.

— Не перашкаджай! — строга сказаў яму дзед.

Сабака лёг на падлогу, палажыў галаву на лапы і сцішыўся, нібы зразумеўшы, што яму сказалі. Дзеці засмяяліся.

— Вось бачыце, — сказаў ім дзед. — Сабака, а нейкі розум мае. Слон, вядома, яшчэ больш разумнейшы. А вось фантазіі ні ў каго з жывёл няма. Фантазія — ёсць вышэйшая ўласцівасць, якую ва ўсёй прыродзе мае толькі чалавек. Мы павінны гэтым ганарыцца.

Відаць, гэтая тэма для вучонага была самай любімай, бо ён часта да яе вяртаўся і карыстаўся кожным выпадкам, каб падкрэсліць значэнне фантазіі.

— Фантазія, — казаў ён у наступны раз, — не толькі дае магчымасць бачыць тое, што чалавек мяркуе зрабіць. Яна наогул неабмежаваная. «На крыллях фантазіі», як здаўна кажуць, можна перанесціся і туды, куды зусім ужо нельга трапіць, — у самую сярэдзіну Зямлі, на Сонца, а то проста ў будучае ці мінулае. Ёсць вельмі многа кніг, дзе гаворыцца аб такіх падарожжах. Там апісваюцца самыя разнастайныя і самыя непраўдападобныя спосабы: то машына-крот для падарожжа пад Зямлёй, то нейкія шкляныя бурбалкі для жыцця на дне акіяна, то машына наогул для падарожжа ў мінулае. А ў адным выпадку падарожнікі ўхітрыліся выехаць з цэнтра Зямлі на драўляным плыце, ды яшчэ праз вулкан у часе яго дзеяння.

— Гэта кніга Жуль Верна «Падарожжа да цэнтра зямлі», — сказала Святлана. — Мы чыталі.

— І яшчэ мы чыталі кнігу Уэлса «Машына часу», — дадаў Светазар.

— Ну і што, паверылі вы, што так было ў сапраўднасці? — спытаў дзед.

— Не, — адказалі ўнукі. — Але чытаць усёроўна было цікава. Вельмі цікава.

— Казкі наогул больш цікавыя для дзяцей, бо ў дзяцей фантазія вялікая. А калі казкі хоць трошкі грунтуюцца на навуковых даных, то гэта яшчэ лепей. Нажаль, тыя кнігі, пра якія мы гаворым, пісаліся вельмі даўно, калі навука і думаць не магла аб тым, што сёння ведаеце хоць-бы вы самі. Напрыклад, нікому тады не магло-б прыйсці ў галаву, што для так званых фантастычных падарожжаў можна скарыстаць энергію самой фантазіі. І не ў казцы, а ў сапраўднасці.

— У сапраўднасці?! — вырвалася ў дзяцей.

— Так, у сапраўднасці, — усміхнуўся дзед. — Нават у вас хопіць ведаў, каб зразумець гэта. Слухайце. Усе з'явы прыроды — матэрыяльныя. Рускі вучоны Лебедзеў даўно паказаў, што святло націскае на тое месца, куды яно падае. Радыёхвалі, якія ніхто не бачыць і не адчувае і якія, паміж іншым, таксама адкрыў рускі вучоны Папоў, — настолькі матэрыяльныя, што вы самі чуеце іх работу. Усё тое, што мы называем энергіяй, таксама матэрыяльная рэч. А энергія вылучаецца ўсюды, дзе адбываецца які-небудзь працэс. Калі чалавек думае ці фантазіруе, у мозгу яго таксама адбываецца працэс, значыцца — і вылучаецца энергія. Хоць надзвычай слабая, але ўсёроўна матэрыяльная. А калі матэрыяльная, то яе можна і скарыстаць. Вы ведаеце, як мы скарыстоўваем радыёхвалі. Радыёхвалі не толькі крычаць і грымяць у нашых прыёмніках, а яшчэ кіруюць самалётамі без лётчыка і вялізнымі караблямі без экіпажа. А ці ведаеце вы, колькі энергіі нясуць прыёмніку радыёхвалі за год? Падкрэсліваю — за цэлы год. Столькі, колькі траціць муха, каб падняцца ўверх па сцяне на адзін сантыметр. Вось якая сіла можа прымушаць прыёмнік грымець цэлы год. Вядома, не самі гэтыя слабенькія радыёхвалі робяць такую работу, а з дапамогай электрычнасці, якая ператварае энергію іх у тыя гукі, словы, музыку, рухі, што перадаюцца чалавекам праз, як мы бачылі, надзвычай слабыя хвалі.

Энергія, якая вылучаецца ў працэсе работы нашага мозга, вядома, непараўнальна меншая за энергію радыёхваляў, але затое мы цяпер маем сілу непараўнальна большую за электрычнасць — атамную энергію. Гэта энергія можа зрабіць тое самае з імпульсам нашага мозга, што робіць электрычнасць з імпульсамі радыёстанцыі. Гэта значыць, выконваць усё тое, чаго жадае наш мозг, інакай кажучы, наша фантазія. Ну, светлячкі, ці зразумелі вы што-небудзь?

— Трохі зразумелі, — прамовіў Светазар, гледзячы на дзеда шырока раскрытымі вачыма.

— А хіба можна гэта зрабіць? — ціха спытала Святлана.

— Цяпер усё можна, — сур'ёзна адказаў дзед. — Сучасны стан нашай навукі, асабліва атамнай, дазваляе гэта. Я ўжо даўно займаюся гэтым пытаннем і спадзяюся зрабіць вам такую машыну.

Такія аўтарытэтныя і сур'ёзныя словы вучонага прымусілі дзяцей паверыць у сапраўднасць усёй справы. Яны тут-жа пачалі марыць

— Я паляцеў-бы на Месяц або на Сонца, — сказаў Светазар.

— А я спачатку аб'ехала-б увесь наш Саюз, — сказала Святлана.

Яны нават пачалі спрачацца, куды ехаць, і выдумлялі ўсё новыя і новыя маршруты. А дзед глядзеў на іх і, пасмейваючыся, ківаў галавой.

— Так, так. Добра, добра. Бачу я, фантазіраваць вы ўмееце. Зараз паглядзім, якую энергію мае ваша фантазія.

Ён устаў з крэсла, падышоў да шафы, дзе блішчэлі розныя складаныя прылады, і ўзяў адну штуку з цыферблатам, які быў прымацаваны да шырокай круглай падстаўкі з выемкай унізе, нібы перавернутая міска. Падышоўшы да ўнукаў, дзед прыклаў прыладу да галавы спачатку аднаму, а потым другому, наглядаючы за стрэлкай. Потым весела сказаў:

— Вельмі добра! Гаручага хопіць на якія хочаце падарожжы.

Раптам ён зрабіўся сур'ёзным, вочы яго пагаслі і, здаецца, не бачылі ўжо ўнукаў. Ён сеў у сваё мяккае крэсла і апусціў галаву. Светазар і Святлана зразумелі, што дзеду трэба адпачыць, і ціхенька выйшлі з пакоя.

Калі першае ўражанне ад дзедавай гутаркі прайшло, Светазар і Святлана пачалі думаць, што дзед жартаваў, расказваў адну з тых навуковых казак, якія яны чулі ад яго ўжо не раз. І раней часта бывала, што не разбярэш, дзе канчаецца навука і дзе пачынаецца казка.

«Навуковыя казкі, — казаў ён, — адрозніваюцца ад народных тым, што ў народных неправўдападобныя звычайна бываюць усе факты, а ў навуковай можа быць неправўдападобнай які-небудзь адзін, асноўны. Возьмем, напрыклад, вядомую казку «Канёк-Гарбунок», там у аснове неправўдападобны сам Канёк-Гарбунок. Іванушка, які едзе на ім, сустракае і неправўдападобнага кіта, і ярша, і неправўдападобную жар-птушку, і наогул усе падзеі ў казцы.

У навуковай казцы «Плутонія» нашага вучонага Обручава неправўдападобна толькі тое, што ў наш час чалавек трапіў у нейкае царства дапатопных звяроў. Затое ўсё далейшае апісанне зусім правільнае: каб чалавек сапраўды мог трапіць у такое царства, ён убачыў-бы акурат такіх самых жывёл, у такім царстве яны былі-б у сапраўднасці».

Успамінаючы гэтыя словы Светазар і Святлана задавалі сабе пытанне: мусіць і тут была навуковая казка? Мусіць і тут які-небудзь пункт няправільны? Але які! І чаму дзед казаў так, нібы сапраўды можа зрабіць машыну?

— А навошта нам ламаць галаву? — нарэшце вырашылі яны.

— Калі гэта была казка, няхай будзе казка, а калі сапраўднасць, то самі ўбачым.

На дзедавай верандзе стаяла маленькая чырвоная машына, падобная і на аўтамабіль, і на падводную лодку, і на самалёт, бо збоку былі маленькія крылы, як у птушкі, якая нарыхтавалася ўзляцець. Унізе ледзь вызначаліся маленькія колы. Спераду быў невялікі прапелер з адхіленымі назад лопасцямі; у такім выглядзе ён трохі нагадваў свердзел. Ззаду, дзе ў аўтамабілях часта прымацоўваюцца запасныя колы, таксама быў ні то прапелер, падобны на вентылятар, ні то вентылятар, падобны на прапелер. Па баках было напісана: «ФЦ-1».

Пасля таго ўнукам доўгі час не даводзілася сядзець у дзеда і гутарыць з ім. Ён быў вельмі заняты, нават выязджаў некуды; потым да яго прыходзілі нейкія людзі, нешта прыносілі, майстравалі там наверсе. Уніз дзед спускаўся рэдка і ні на кога не звяртаў увагі. Але ніхто гэтаму не здзіўляўся: ён часта быў такім, калі быў надта захоплены сваёй работай.

І вось аднаго разу дзед сказаў:

— Ну, светлячкі, ідзіце прымайце сваю машыну.

Маці, якая таксама была тут, сказала свайму бацьку з дакорам:

— Ці варта было столькі турбавацца дзеля такой цацкі? Яна-ж, мусіць, і дорага каштуе. Замест яе лепш было-б веласіпеды ім купіць. А гэтую штуку і не скарыстаеш ніяк...

— Эх, маці! — сказаў стары з дакорам. — Не скарыстаеш! А ты ўжо забылася, як сама калісьці скарыстоўвала нават перавернутае крэсла для падарожжаў па ўсім свеце? І, здаецца, была ўпэўнена, што гэта ёсць сапраўднасць.

— Дык то была дзіцячая фантазія, — адказала дачка.

— Вось мы і скарыстаем гэтую дзіцячую фантазію. Толькі не так, як вы калісьці, а па-навуковаму.

— Ну, гуляйце сабе па-навуковаму, — абыякава сказала маці і пайшла ўніз.

— А што азначаюць літары «ФЦ»? — пацікавілася Святлана.

— Гэта фабрычная марка, — засмяяўся дзед. — Чытаецца так: «Фантамабіль Цылякоўскага», выпуск 1. А цяпер сядайце ў свой фантамабіль. На галаву надзеньце гэтыя шлемы. Ад іх вось ідуць правады да гэтага апарата (за спіной іх было нібы акенца з сеткай). Тут і знаходзіцца, так сказаць, сэрца машыны. Як я ўжо казаў, рухаць машыну будзе ваша фантазія. Гэта значыць, што можна выканаць кожнае ваша жаданне. Паўтараю, — кожнае. Значыцца, ніякага іншага кіравання не трэба і вы можаце сядзець спакойна і фантазіраваць. Каб пусціць машыну ў ход, трэба націснуць вось гэтую кнопку. Тут яшчэ ёсць цыферблат са стрэлкай, дык вы яго пакуль не чапайце: я потым скажу вам, як ім карыстацца. Хуткасць вашага «фантамабіля» ў прынцыпе павінна быць такая самая, як хуткасць фантазіі, гэта значыць, неабмежаваная. Але ў прыродзе мы яшчэ не ведаем хуткасці большай за хуткасць святла, гэта значыць, трыста тысяч кіламетраў у секунду. Навука лічыць, што наогул большай хуткасці не можа быць, як не можа быць холаду, большага за 273 градусы. Ну што-ж, калі не ўдасца нам падняць хуткасць машыны да хуткас-





ці фантазіі, то хопіць вам і хуткасці святла, з якой вы зможаце апынуцца, напрыклад, на Месяцы праз адну і тры дзесятых секунды або за адну секунду аб'ехаць вакол Зямлі сем з палавінай разоў. Памятайце толькі, што перад пасадкай трэба загадзя зменшыць ход, каб не расплюшчыла вас інерцыя. Тое самае трэба мець на ўвазе і пры павелічэнні хода. Але паколькі ўсё гэта залежыць ад вашага арганізма, то я ўпэўнены, што ён інстынктыўна будзе сам рэгуляваць хуткасць, як рэгулюе роўнавагу ў часе хады. Пакуль вы знаходзіцеся ў машыне, ніякая небяспека вам не пагражае, бо вы можаце ў кожны момант накіраваць яе прэч. Вось пакуль што і ўсё.

Унукі не ведалі, што і думаць. Розум падказваў ім, што гэтага не можа быць. Але дзед казаў зусім сур'ёзна, верыць яму ўнукі прывыклі з самага маленства. Да таго-ж яны ведалі, што ўвесь свет лічыць іхняга дзеда вялікім вучоным. Як было не верыць?

Тады Святлана без усякіх хітрыкаў задала яму адно пытанне:

— А вы самі, дзядуню, ездзілі на такой машыне?

Дзед шчыра рассмяяўся.

— Правільнае пытанне, Святланачка! — сказаў ён праз смех. — Або, як кажуць, правакацыйнае пытанне. Але на яго ёсць вельмі просты адказ: у сталага чалавека, а тым болей у такога старога, як я, фантазія зусім не тая, што ў дзяцей. Ці магла-б, скажам, цяпер ваша маці, як вы чулі, фантазіраваць, як у дзяцінстве, ездзіць па ўсім свеце на перавернутым крэсле? Не, на нашай фантазіі далёка не паедзеш, а вось на вашай... Націскайце кнопку — і ў дарогу!

Пачуўся ціхі гул, як пры ўключэнні радыёпрыёмніка.

Здрыганулася, прыўзнялася, мільганула ў паветры і знікла машына. Стары паглядзеў ёй услед шчаслівымі вачыма і прашаптаў:

— Так, меркаванні мае аказаліся правільнымі...

Потым вочы яго згаслі. Ён апусціўся на крэсла і задрамаў.

### Нястрымны рэйс

Машына адразу апынулася ў чорнай прасторы, дзе з усіх бакоў блішчэлі кропкі-зоркі. Руху не адчувалася, толькі за спіной ціхенька гуло, нібы там заблыталася ў павуцінні муха. Зоркі-кропкі, у залежнасці ад набліжэння ці аддалення, то павялічваліся, то памяншаліся. Раптам далёка збоку паказаўся вялізны кудлаты вогненны шар з хвастом.

— Камета!

Ляцела яна наперарэз машыне і няўхільна павінна была сутыкнуцца з ёй, калі можна казаць аб сутычцы гары з мухай. Але ў нашых пасажыраў не было ніякага жадання сутыкацца з каметай. значыцца, і машыне перадалося гэтае нежаданне. Хуткасць яе зменшылася, галава каметы праляцела міма, а машына ўрэзалася ў хвост.

— Ай! — ускрыкнула Святлана.

— Не бойся, — спакойна сказаў Светазар. — Гэта проста туман. Дзед казаў, што ў 1911 годзе наша зямля таксама праляцела праз хвост каметы, і ніхто гэтага не заўважыў.

Самым цікавым было тое, што ўсё гэта адбылося ў мёртвай цішыні, бо ў прасторы без паветра гукі перадавацца не могуць.

Калі машына праляцела праз хвост, Светазар са смехам сказаў:

— А ці ведаеш ты, што калі-б мы ляцелі праз гэты хвост на самалёце, нават па тысячы кіламетраў у гадзіну, то нам прышлося-б ляцець некалькі гадоў. Я сам гэта чытаў.

— Ну?! — здзівілася Святлана.

Разважаць больш не было часу. Наперадзе адна з зорак шпарка павялічвалася, зрабілася, як сонца, потым пачала расці ўсё больш і больш, нарэшце ператварылася ў вогненную сцяну без канца ў даўжыню і шырыню.

— Назад!!! — мімаволі вырвалася крык у брата і сястры разам.

І раптоўна машына завярнулася назад і паляцела ў процілеглы бок. А там было такое самае чорнае неба, на ім свяціліся такія самыя зоркі-кроплі, і адна з іх заразжа пачала ператварацца ў вогненную сцяну без канца ў даўжыню і шырыню. Зноў закрычалі яны з жахам:

— Назад! — і зноў паўтарылася тое самае...

Цесна зрабілася нашым героям у сусветных прасторах — усюды яны натыкаліся на зоркі, планеты, каметы. Відаць, для фантазіі і сусвет не такі ўжо вялікі.

— На зямлю!! — са слязмі закрычалі падарожнікі і... апынуліся сярод ільдоў. Воддаль сядзеў белы мядзведзь і пільнаваў над пароламкай цюленя. Холадна, няўтульна здалося тут рабятам — і яны адразу апынуліся ў нейкай гарачай пустыні. Навокал, як марскія хвалі, ішлі барханы; грабяні іх нібы дыміліся ад лёгкага ветрыку. Гарачыня страшэнная...

— Ну і падарожжа! — раззлаваўся Светазар. — Скачам, як тая блыха, і нічога добрага не бачым.

— Дзед-жа казаў, што хуткасць нашай машыны такая самая, як хуткасць думкі, — зазначыла Святлана.

— А навошта нам такая хуткасць? — крычаў Светазар так, нібы Святлана была ў гэтым вінаватая. — Вунь куды нямаведама чаго занесла! Лепш-бы ўжо на мора занесла, чым у гэтыя пяскі.

Падзьмуў халодны ветрык — і яны ўбачылі, што барханы ператварыліся ў сапраўдныя марскія хвалі, а іхнюю машыну пачало кідаць, як трэску.

Зноў спалохаліся дзеці. Светазар, дрыжучы ад страху, пачаў супакойваць сястру:

— Чаго баішся? Хіба ты забылася, што ад нас саміх залежыць, куды нам дзецца. Захочам выбрацца на зямлю — і будзем там.

І сапраўды, яны ўжо былі на зямлі. Гэта быў маленечкі каралавы астравок на Ціхім акіяне. На ім расло некалькі какосавых пальмаў, а больш нікога і нічога не было.

— Слухай, Света, здымай хутчэй свой шлем! — крыкнуў Светазар і зняў свой. — Хутчэй, хутчэй здымай!

— Што такое? — спалохалася Святлана.

— Здымай, здымай! — падганяў Светазар, і калі яна зняла, дадаў: — Трэба нам адпачыць ад гэтых скокаў. Калі шлемы будуць на галаве, то нас бясконца будзе кідаць. А цяпер мы нават можам вылезці і пахадзіць тут.

Яны вышлі з кабіны і з прыемнасцю расправілі рукі і ногі. Лёгкі ветрык пяшчотна абвяваў іх твары. Мора было ціхае, на гарызонце дыміўся параход. Ён ішоў міма, з людзьмі, а рабяты заставаліся тут, на другім канцы свету, адны. Мімаволі прышла ў галаву думка: «А што, калі не ўдасца выбрацца адсюль?»

— Едзем хутчэй на радзіму! — сказала Святлана.



Светазар моўчкі пайшоў да машыны. Селі на свае месцы, надзелі шлемы, глядзяць — побач стаіць міліцыянер і з цікавасцю ўглядаецца ў іх. А іх машына стаіць на плошчы, перад імі крэмлёўская сцяна са сваімі бліскучымі зоркамі. Вакол незвычайнай машыны пачалі збірацца людзі. Зараз падыйдзе міліцыянер і пачне распытваць — хто, што, адкуль, як, чаму, ды яшчэ прычэпіцца, што нумару сапраўднага на машыне няма і шафёрскіх правоў у іх няма. Тады ў абодвух падарожнікаў з'явілася апошняя, самая моцная думка:



— Дадому!

І машына на вачах некалькіх сотень чалавек знікла... Людзі пацёрлі сабе вочы, асцярожна зірнулі на сваіх суседзяў. Ці бачыў яшчэ хто? Але ніхто першы не адважваўся сказаць, што ён бачыў такі цуд. Кожны баяўся, што з яго пачнуць смяяцца, і кожны сам сябе ўпэўніў, што яму аднаму так здалося.

Міліцыянер таксама пацёр сабе вочы, а пасля змены паспрабаваў расказаць сваім таварышам, што ён бачыў, але таварышы толькі смяяліся.

Сярод людзей, што наглядалі гэты факт, быў нават адзін журналіст, ён не падумаў не толькі пісаць у газету, але хоць каму-небудзь сказаць аб гэтым. Каму ахвота выстаўляць сябе на смех.

### Дома

Светазар і Святлана былі ўжо на сваёй верандзе. Вышлі з машыны, увайшлі ў пакой. Усюды было ціха, дзед драмаў у сваім крэсле. Сонца таксама свяціла ў акно, як і раней, і прамені яго як быццам былі на тым-жа самым месцы.

— Колькі-ж часу мы адсутнічалі? — шэптам спытала Святлана.

— Не ведаю, — адказаў Светазар, — але памятаю, што, ідучы на балкон, я зірнуў на гэты гадзіннік і заўважыў, што было дванаццаць гадзін. А цяпер, бачыш, сем мінут пасля дванаццаці.

— Няўжо мы толькі сем мінут падарожнічалі? — усклікнула Святлана.

— Ціха, дзеда разбудзіш! — штурхануў яе Светазар. — І ездзілі мы не сем мінут, а меней: у гэтыя сем мінут уваходзіць і той час, які пайшоў на нашу пасадку, на доўгае дзедава тлумачэнне...

— Значыцца, мы нідзе не былі! — з прыкрасцю сказала Святлана. — Значыцца, усё гэта нам толькі здалося!

— А мы зараз усё гэта праверым, — пачуўся ціхі голас дзеда. — Раскажыце мне спачатку пра ваша падарожжа.

Унукі пачалі расказваць, спяшаючыся, перапыняючы адзін аднаго, папраўляючы, дапаўняючы тое, што другі забыўся. Дзед слухаў надзвычай уважліва, нешта запісваў, задаваў пытанні, высвятляў усе падрабязнасці. Потым падумаў і ціха, нібы сам сабе, сказаў:

— Так, так. Правільна. Так яно і павінна было быць. Як гэта я не здагадаўся...

А затым звярнуўся да ўнукаў:

— Цяпер я магу вам сказаць, ці здалося вам усё гэта, ці яно было ў сапраўднасці. Ці можа быць, каб два чалавекі бачылі ва ўсіх падрабязнасцях адзін і той самы сон? Ці можа быць, каб яны расказвалі яго так, як вы цяпер: папраўлялі, падказвалі, успаміналі, хто што казаў, што рабіў? Хіба можа другі чалавек дакладна ведаць і расказаць твой сон? Ці чулі вы калі-небудзь пра такі выпадак?

Светлячкі павінны былі прызнацца, што нічога падобнага яны не чулі і ўявіць сабе не могуць.

— Значыцца, ваша падарожжа вам не здалося, а было сапраўдным, — скончыў дзед.

Светазар і Святлана толькі паглядзелі адзін на аднаго і паціснулі плячыма. Потым Светазар спытаўся:

— А чаму наша падарожжа было такое недарэчнае? Чаму нас кідала ва ўсе канцы сусвету?

— А вось чаму, — адказаў дзед. — Вы, пэўна, не раз чулі, як пра таго ці іншага чалавека часам гавораць, што ў яго нястрымная фантазія, куды хоча, туды і нясе яго. Такі чалавек у сваіх думках і пачуццях кідаецца ва ўсе бакі. Ён не хоча і не ўмее стрымліваць сябе. Значыцца, у першую чаргу вам трэба навучыцца стрымліваць сваю фантазію, як мы часта стрымліваем некаторыя свае жаданні, пачуцці, напрыклад, злосць. Трэба прывучыць сябе сур'ёзна думаць пра адно, а не пераскокваць з адной думкі на другую. Вядома, патрабаваць ад вас такой вытрымкі яшчэ нельга, таму я прыдумаю якое-небудзь удасканаленне ў машыне, каб яно дапамагло вам стрымліваць і правільней накіроўваць вашу фантазію.

— Гэта я крышачку-крышачку зразумець магу, — задумліва прамовіла Святлана, — а як наша падарожжа працягвалася ўсяго некалькі мінут, дык гэта ўжо зусім цуд. А вы самі заўсёды гаворыце нам, што ніякіх цудаў на свеце няма.

— Зноў ты мяне ловіш! — засмяяўся дзед. — Ну, дык я табе скажу, што і тут ніякага цуда няма.

— Няўжо?! — ускрыкнулі ўнукі разам.

— А вось паслухайце. Уявіце сабе, што вы спіцё і бачыце сон: ходзіце вы па лесе і збіраеце грыбы; раптам на вас выходзіць мядзведзь; вы ўцякаеце, ён за вамі гоніцца; бяжыце вы доўга, далёка, нарэшце ўбачылі паляўнічага і сталі прасіць, каб ён выратаваў вас; паляўнічы здымае з плеч стрэльбу і... выстрал разбудзіў вас. Але не гэты неіснуючы выстрал, а другі, сапраўдны.

— Які?

— Ну, скажам, нехта ля вашага акна стрэліў у варону. Ад гэтага стрэлу вы і прачнуліся. І што-ж! Навука гаворыць, што ўвесь ваш сон адбыўся ў той момант, калі адбыўся стрэл. Гэта значыць, і грыбы, і мядзведзь, і паляўнічы мільганулі ў вашым мозгу толькі тады, калі пачуўся сапраўдны стрэл. Ад стрэлу пад акном вы паспелі сасніць усю гэтую доўгую гісторыю. А сон і фантазія — гэта брат і сястра, толькі брат недарэчны, а сястра разумная.

— Гэта ты недарэчны, а я разумная, — шапнула Святлана і штурханула брата ў бок.

— Адчапіся! — злосна буркнуў Светазар.

— Светлячкі, не сварыцеся! — нібы строга сказаў дзед, а ў самаго вочы былі такія ласкавыя-ласкавыя. — Ну, дык цяпер вы бачыце, што і тут ніякага цуда няма.

— У такім разе нам усё гэта прысніласся, — упарта сказала Святлана.

— Тое, ды не тое, — усміхнуўся дзед. — Я-ж вам казаў, што пра твой сон ніхто не раскажа, калі ты нікому не гаварыла пра яго, а пра тваё падарожжа можа расказаць Светазар нават больш, чым ты сама ўспомніш. Так або інакш, вам не варта дужа ламаць галаву над гэтай справай: усё зразумець вы яшчэ не здолееце. Замест таго падумайце аб тым, як зрабіць вашы падарожжы больш арганізаванымі і змястоўнымі. А для гэтага трэба спачатку падрыхтавацца, гэта значыць, прачытаць як мага больш кніг пра тое месца, якое вы захочаце пабачыць, і пра тыя факты і падзеі, якія звязаны з гэтым месцам. Кожны падарожнік так робіць. Калі, напрыклад, нашы футбалісты едуць у Нарвегію, то яны спачатку прачытаюць усё, што можна, пра гэтую краіну. Майце на ўвазе, што няма такой фантазіі, якая складалася-б з элементаў, зусім незнаёмых чалавеку, як няма будынку, які быў-бы складзены з нічога. Якую-б вы непраўдападобную, дзікую, недарэчную фантазію ні прыдумалі-б, усёроўна яна будзе складацца з частак, якія вы да гэтага ведалі, бачылі, пра якія чулі, чыталі. Як і ўсюды, у прыродзе з нічога нічога не зробіш. Значыцца, каб ваша фантазія была больш цікавай і разумнай, вы спачатку павінны сабраць пабольш матэрыялу для яе.

Светазар аб нечым напружана думаў, а затым сказаў:

— Калі гэта быў не сон, то я не разумею адной справы.

— Якой?

— Мы ведаем, што ад вялікай хуткасці нават камяні, метэоры, распаляюцца ад трэння паветра. А ў нас хуткасць большая, а мы не распаліліся.

— Правільнае пытанне, разумнае пытанне! — задаволена сказаў дзед. — Справа ў тым, што ваша машына зроблена з фантазіту, матэрыялу, які мацней за ўсе металы на зямлі. Вы можаце самі заўважыць, што за яго нішто не чапляецца, усё слізгаецца і не трэ. Паспрабуйце стукнуць па ім малатком, і ўдару не будзе, бо малаток слізгане па паверхні. Не толькі паветра не будзе церці яго, але і цвёрдыя прадметы. Ваша машына можа прабіць сцяну, і цагліны саслізнуць і не пашкодзяць яе.

Што маглі адказаць унукі свайму вучонаму дзеду? Прыходзілася верыць...

### «ФЦ-2»

Зноў дзед заняўся работай, зноў кудысьці ездзіў, зноў прыходзілі да яго невядомыя людзі і нешта майстравалі... І зноў прышоў дзень, калі дзед паклікаў да сябе ўнукаў.

На балконе стаяла тая самая машына, толькі па баках яе было ўжо напісана «ФЦ-2». А ў кабінцы было рулявое кола, як у звычайным аўтамабілі. Ды ўнізе яшчэ была педаль.

— Вось вам удасканалены «Фантамабіль-2», — сказаў дзед. — Бачыце, тут ужо ёсць руль. Калі яго трымаць прама па гэтай стрэлцы, то ён не дасць вашай фантазіі занадта адхіляцца ўбакі, як было з вамі першы раз. Машына пойдзе, так сказаць, па сярэдняй лініі між вашымі думкамі. Затым вось тут, як у кожным аўтамабілі, ёсць тормаз. Націскаючы нагой гэтую педаль, вы будзеце затрымліваць і рэгуляваць хуткасць па вашаму жаданню.

— Машынай буду кіраваць я! — закрычаў Светазар, спалохаўшыся слова «вы».

— Ты, ты, — супакоіў яго дзед. — Але калі-небудзь дасі і Святлане. На гэты раз я вас адразу не пушчу ў дарогу. Вы спачатку падрыхтуйцеся, парайцеся, куды ляцець, і пачытайце кнігі. Інакш кажучы, вам трэба назапасіць гаручага, або, як кажуць шафёры, заправіцца. Ідзіце, а калі будзеце гатовы, скажыце мне.

Але не так проста было ім дагаварыцца, як здавалася дзеду. У кожнага з іх знайшлося многа жаданняў, і ўсе гэтыя жаданні перабіваліся і перашкаджалі адно другому.

— Я хачу ў Аўстралію! — казала Святлана.

— А я хачу ў Амерыку! — казаў Светазар.

— Тады лепш у Афрыку!

— На Поўднёвы полюс!

— На Марс!

Пачуў гэтыя спрэчкі дзед і паклікаў іх да сябе.

— Вось як вы дагаварваецеся! — сказаў ён з дакорам. — Што з вамі было-б, каб вы гэтак заспрачаліся ў машыне? Не забывайце, што гэта будзе ваш першы рэйс на рэканструяванай машыне. Далёка вы яшчэ паспееце паездзіць, а цяпер выбірайце маршрут прасцейшы. Вам трэба спачатку папрактыкавацца на кароткіх падарожжах. Для пачатку паспрабуйце зрабіць маленькую экскурсію за дзесяць тысяч кілометраў. Толькі што мне сказалі, што на адной з нашых зімовак у Поўночным Ледавітым акіяне, каля Чукоткі, некалькі дзён бушуе завіруха, якая не дае магчымасці даставіць туды лякарства. А без яго там чалавек памрэ. Я зараз пайду прынясу гэтае лякарства...

А што было далей, мы ўжо ведаем.

Гэтае падарожжа «светлячкам» больш спадабалася, хоць яно было не такое рознастайнае і не мела ніякіх прыгодаў. Толькі адно іх бянтэжыла — сустрэча з нашымі людзьмі.

— Мы не ведаем, як сябе трымаць у такіх выпадках, — казалі яны дзеду. — Людзі глядзяць на нас, як на цуд, хочуць распытаць нас, хто мы такія, адкуль, як мы сюды трапілі, якая ў нас машына і іншае. А мы не ведаем, што ім казаць, як сябе трымаць.

— Сапраўды, ваша становішча труднаватае, — згадзіўся дзед. — У такіх выпадках, як гэты, вам нічога не заставалася рабіць, як уцячы. А ў іншых выпадках вы старайцеся рабіць так, каб не звяртаць на сябе надта вялікай увагі, каб нічым не адрозніваца ад іншых людзей. Машыну сваю вы можаце схаваць дзе-небудзь.

— А калі хто яе забярэ? — перапыніла Святлана.

— Вы можаце паставіць яе, як звычайную машыну, у якіх-небудзь добрых, простых людзей. Апрача таго, можна ў машыну ўключыць ток, як гэта часам і робяць нашы шафёры. Тады ўжо да вашага фантамабіля ніхто не дакранецца.

— А чаму, дзядуню, вы наогул трымаеце ў сакрэце гэтае вялікае вынаходства? — спытаў Светазар. — Чаму не паведаміце аб гэтым нашым вучоным і нашаму ўраду?

— Не прышоў яшчэ час, дарагія мае светлячкі, — адказаў дзед. — Не ўсё яшчэ прадумана да канца, не ўсё яшчэ праверана, нават многа чаго я і сам яшчэ не разумею. Вы самі сваімі падарожжамі павінны даць мне матэрыял для завяршэння маёй працы. А калі я выступлю цяпер, то з мяне будуць смяяцца. Я ўжо казаў вам, што мы, дарослыя, лятаць яшчэ не можам, нашай фантазіі для гэтага нехапае. Мы пакуль што можам пасылаць толькі дзяцей. А хто з вучоных паверыць, што дзеці гавораць навуковую праўду? Вось калі я змагу сам сесці ў машыну ды пасадзіць з сабой якога-небудзь акадэміка, тады будзе зусім іншая размова.



А пакуль што Пётр Трафімавіч Цыляковскі падрабязна запісваў усё, што расказвалі яго ўнукі аб сваіх падарожжах. Гэтыя запісы пазней трапілі ў рукі аўтара гэтай кнігі. Аўтар разабраў іх, апрацаваў, выбраў найбольш цікавыя, надрукаваў і прапануе цяпер нашым чытачам.

(Працяг у наступным нумары.)



**На малацьбе ў калгасе «Завет Леніна» Васілевіцкага раёна Гомельскай вобласці.**
Фото В. Лупейкі. (Фотахроніка БЕЛТА).




**Група членаў Маладзечанскага абласнога літаратурнага аб'еднання ў вёсцы Вязынка Радашковіцкага раёна ля дома, у якім нарадзіўся Янка Купала.** Злева направа: **Алесь Бажко, Уладзімір Драбышэўскі, Анатоль Усаў, Мікола Астаневіч, Фёдар Ізмайлаў і Барыс Папоў,**

Фото А. Дзітлава,

**Р. ОСТРОЎСКАЯ,**
**дырэктар Музея Н. А. Остроўскага ў Маскве.**
**Д. СОКАЛАВА,**
**ст. навуковы супрацоўнік Музея Н. А. Остроўскага.**

# НІКАЛАЙ ОСТРОЎСКІ

**Да 50-годдзя з дня нараджэння**

29 верасня 1954 года спаўняецца 50 год з дня нараджэння выдатнага савецкага пісьменніка Нікалая Аляксеевіча Остроўскага. Імя пісьменніка, яго кнігі вядомыя мільёнам савецкіх і замежных чытачоў. Сваё палымянае жыццё, свой талент мастака Н. А. Остроўскі аддаў барацьбе за комунізм, за мір. Ён казаў: «Для мяне няма большай радасці, як радасць барацьбы за цудоўнае шчасце чалавецтва».

У імя служэння Савецкай Радзіме, партыі Нікалай Остроўскі пераадолеў цяжкую асабістую трагедыю. Прыкаваны хваробай да ложка на шмат гадоў, страціўшы зрок, ён пісаў свае кнігі, укладваючы ў іх увесь агонь свайго сэрца.

Раман «Як гартавалася сталь» Н. А. Остроўскі пісаў чатыры гады — з 1930 да 1934 года, запісваў яго сам, усляпую, дыктаваў родным, сябрам, комсамольцам. Адсылаючы рукапіс у рэдакцыю часопіса «Маладая Гвардыя», Остроўскі пісаў: «Фізічна страціў амаль усё, засталіся толькі нязгасная энергія маладосці і гарачае жаданне быць чым-небудзь карысным сваёй партыі, свайму класу».

У рамане «Як гартавалася сталь» пісьменнік намаляваў яркі, праўдзівы вобраз любімага героя моладзі, перадавога чалавека нашага часу — Паўла Карчагіна. Пісьменнік паказаў у рамане, як пад кіраўніцтвам Комуністычнай партыі фарміраваўся характар Карчагіна і яго баявых сяброў. Для новых пакаленняў савецкай моладзі, актыўных удзельнікаў будаўніцтва комунізма, — блізкія і зразумелыя кіруючыя прынцыпы ў жыцці Паўла Карчагіна і яго таварышаў — ідэя служэння соцыялістычнай Радзіме, палымянае імкненне дзейнічаць, змагацца, перадольваць перашкоды ў імя барацьбы за комунізм.

Партыя і Савецкі ўрад адзначылі высокай узнагародай самаадданую працу Н. А. Остроўскага, узнагародзіўшы яго ордэнам Леніна. «Як гартавалася сталь» стала ў нашай краіне самай любімай кнігай. К 1954 году яна выдадзена ў СССР 260 разоў на 48 мовах народаў Саюза, за мяжой — 92 разы ў 26 краінах.

Другі раман — «Народжаныя бурай» Н. А. Остроўскі ствараў у 1934—1936 гг., дыктаваў яго сваім сакратарам. Гэты раман ён прысвяціў савецкай моладзі, якая нарадзілася пасля Кастрычніка: «Я пішу для тае моладзі, якая ўзнімецца на абарону граніц сваёй соцыялістычнай бацькаўшчыны і змяце агнём і сталлю ўсіх, хто паспрабуе перайсці гэтыя граніцы» *.

Н. А. Остроўскі казаў аб рамане: «Асноўная думка відаць ужо ў назве рамана. У ім хачу паказаць, па-першае, пакаленне, якое сфарміравана і загартавана бурай рэволюцыі... Хачу паказаць самы працэс фарміравання гэтага пакалення... Другі тэзіс: паказ сутыкнення двух светаў, двух духоўных сіл — рабочага класа і буржуазіі». Гэты раман, задуманы пісьменнікам у 3—4 тамах, застаўся незакончаным. Першы том рамана «Народжаныя бурай» вышаў у дзень крэмацыі Н. А. Остроўскага — 25 снежня 1936 года. У творы пісьменнік паказаў гераічную моладзь, якая пад кіраўніцтвам Комуністычнай партыі змагаецца за савецкую ўладу. Ёй супроцьпастаўлены звярыны свет ворагаў, іх замыслы як падпальшчыкаў вайны. Твор шырока вядомы моладзі, ён вучыць, як берагчы заваёвы Вялікага Кастрычніка, як згуртоўваць усе прагрэсіўныя сілы чалавецтва ў барацьбе за мір ва ўсім свеце. Раман «Народжаныя бурай» выдадзены ў СССР к 1954 году 128 разоў на 38 мовах народаў Саюза, а за мяжой — у 13 краінах 31 раз.

У 1937 годзе, пасля смерці Н. А. Остроўскага, вышаў зборнік «Прамовы, артыкулы, пісьмы». У ім змешчаны выступленні Нікалая Аляксеевіча па радыё, артыкулы, якія напісаў ён для часопісаў і газет, гутаркі з журналістамі, пісьмы да чытачоў, родных, сяброў. У гэтай кнізе сабраны выказванні Остроўскага аб комунізме, аб міры, аб крытыцы, аб дружбе, аб шчасці, аб каханні і наогул аб маральным вобліку савецкага чалавека. У сваіх выступленнях па радыё, у пісьмах ён гнеўна выкрываў планы падпальшчыкаў вайны — фашыстаў, упэўнена гаварыў аб непазбежнай гібелі капіталізма. Н. А. Остроўскі горача змагаўся за мір, за комунізм, за новага чалавека комуністычнай маралі. З гонарам казаў ён моладзі: «Жыццё наша цудоўнае, прыгожае, рамантычнае, яно дае нам мноства чароўных вобразаў... І ўжо вырысоўваецца перад намі вобраз новага, нябачанага ніколі раней чалавека комуністычнай маралі, вобраз цудоўнага чалавека будучага...»

Кнігі Н. А. Остроўскага прасякнуты савецкім патрыятызмам і інтэрнацыяналізмам, яны маюць вялікае значэнне, дапамагаюць выхоўваць новае пакаленне бадзёрым, якое верыць у сваю справу, не баіцца перашкод, гатова пераадолець любыя перашкоды.

Гераічны вобраз пісьменніка-байца Остроўскага жыве сярод наступных пакаленняў, сярод моладзі, якая будуе комуністычнае грамадства. Кнігі Остроўскага сталі магутнай зброяй у барацьбе за комуністычнае выхаванне. Усяму свету вядомы імёны бессмяротных герояў — Зоі Касмадзем'янскай, Юрыя Смірнова, Олега Кашавога і яго таварышаў-маладагвардзейцаў, Лізы Чайкінай, Хвядоса Смалячкова і многіх іншых, якія прадоўжылі традыцыі Паўла Карчагіна. Патрыятычныя словы аб жыцці, якія выказаў Павел Карчагін над брацкімі магіламі таварышаў, што загінулі за савецкую ўладу, цяпер вядомы мільёнам маладых змагароў і сталі дэвізам для моладзі ў барацьбе за светлую будучыню.

У гады Вялікай Айчыннай вайны савецкія людзі, абараняючы нашу Радзіму ад гітлераўскіх захопнікаў, неслі разам са зброяй кнігу Остроўскага «Як гартавалася сталь». Франтавікі называлі гэтую кнігу «падручнікам мужнасці», «нержавеючай баявой зброяй», «праграмай жыцця». У музеях Н. А. Остроўскага захоўваюцца кнігі пісьменніка, прысланыя ў час вайны і пасля вайны. На вокладках гэтых кніг маюцца надпісы франтавікоў. На адной, прысланай у Маскоўскі музей пасля перамогі, ёсць наступны надпіс: «Мы, воіны-комсамольцы, чыталі яе перад апошнім наступленнем нашых войск. Вобраз палымянага патрыёта Остроўскага клікаў нас наперад да поўнага разгрому ненавіснага ворага, да перамогі. Смела рынуліся мы ў бой, нас не затрымала ні шырокая рака Одэр, ні шквальны агонь варожай артылерыі».

Камандуючы Сталінградскай Арміяй Герой Савецкага Саюза В. Чуйкоў пісаў аб бяспрыкладнай мужнасці маладых воінаў, якія змагаліся за Сталінград: «Прашу перадаць Цэнтральнаму Камітэту Комсамола маё захапленне новым пакаленнем Паўлаў Карчагіных, якія лічаць за вялікае шчасце пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна вызваляць зямлю ад фашысцкіх забойцаў. Нашчадкі нашы ніколі не забудуць веліч духу і казачную моц комсамольскіх сэрцаў ля сцен Сталінграда».

Гераічны подзвіг Карчагіна нашых дзён, лётчыка Аляксея Марэсьева вядомы ўсяму свету. Ён таксама, як і Павел Карчагін, выхоўваў волю і мужнасць і атрымаў перамогу, вярнуўся да работы. Прадстаўнікоў двух розных пакаленняў родніць агульная ідэя барацьбы за комунізм, тое, што яны абодва — патрыёты Соцыялістычнай Радзімы. «Быць да канца ў страі» — вось святы дэвіз савецкага грамадзяніна. Гэтая рыса характарызуе кожнага нашага патрыёта.

У дні мірнай стваральнай працы гераічны вобраз Паўла Карчагіна жыве ў працоўных справах герояў-наватараў вытворчасці. Ён кліча моладзь да новых поспехаў у пабудове комуністычнага грамадства. На прадпрыемствах Масквы, Ленінграда, Кіева, Баку, на Волга-Доне, у калгасах створаны маладзёжныя брыгады наватараў, якія носяць імя Н. Остроўскага або Паўла Карчагіна. Ад'язджаючы на асваенне цалінных зямель, савецкія юнакі і дзяўчаты бяруць з сабою любімыя кнігі. «Невыпадкова ў вагонах цягнікоў, якія ідуць на Усход, — пісала «Комсамольская праўда», — з рук у рукі перадаюцца «Як гартавалася сталь», «Маладая Гвардыя». Простая і моцная нітка звязвае Паўку Карчагіна, герояў Краснадона з юнакамі і дзяўчатамі пяцідзесятых гадоў, што будуюць магутныя электрастанцыі на вялікіх рэках, асвойваюць выпуск новых якасных тканін, а цяпер накіроўваюцца ўздымаць цаліну».

Велізарнай любоўю і вядомасцю карыстаюцца кнігі Остроўскага ў Кітаі і краінах народнай дэмакратыі. Народны герой Чэхаславакіі Юліус Фучык, прачытаўшы кнігу «Як гартавалася сталь» яшчэ ў 1934 годзе, выказаў сваё ўражанне аб ёй так: «Нішто не страшна комуністу». Барацьбіт за мір, прафесар Го Мо-жо сказаў аб Остроўскім: «Хоць ты памёр, але дух твой жыве ў сэрцы кожнага чалавека і натхняе яго на барацьбу і працу».

Мара Н. А. Остроўскага збылася, ён стаіць у шэрагах змагароў за пабудову комунізма. У нашы дні з асаблівай сілай гучаць аптымістычныя словы пісьменніка пра шчасце савецкіх людзей, якія аддаюць свае сілы мірнай плённай працы: «Сцяг міру ўзняты над нашай краінай. Сцяг цудоўны — ён надзея ўсяго чалавецтва. Калі паглядзець на нашу краіну — гэта працавіты мурашнік. Усе нашы думкі — гэта мірная будоўля, гэта — стварэнне калектыўнага багацця, гэта ўздым культуры, будаўніцтва, клопаты аб нашых цудоўных дзецях».

Кнігі Остроўскага дапамагаюць выхоўваць барацьбітоў за мір у духу пралетарскага інтэрнацыяналізма і рэволюцыйнай пільнасці, у духу свяшчэннай нянавісці да лютых ворагаў міру — амерыканскіх падпальшчыкаў вайны і іх прыхвасняў.



У адным з залаў музея Н. А. Остроўскага ў Маскве.



Пакой Н. А. Остроўскага.

---

* Н. А. Остроўскі. Прамовы, артыкулы, пісьмы. 1946, стар. 29.



# Каманда ідзе ў атаку

Тэкст Ю. БАГУШЭВІЧА. Фото В. Гундорына.





Трыбуны мінскага стадыёна «Дынамо» былі хоць і перапоўненыя, але маўклівыя. Ішлі апошнія мінуты першай палавіны сустрэчы футбалістаў мінскага «Спартака» з тарпедаўцамі Масквы — адной з мацнейшых каманд краіны. На шчыту, дзе звычайна паказваецца лік забітых і прапушчаных мячоў, пад словам «Тарпеда» стаяла лічба «2». Гэта азначала, што масквічы забілі ў вароты мінчан два галы.

І таму маўчалі трыбуны.

Недалёка ад бакавой лініі футбольнага поля сядзеў трэнер мінскіх спартакаўцаў Міхаіл Георгіевіч Базененкаў. Вось ён зірнуў на гадзіннік. Да перапынку заставалася каля трох мінут. Знешне Базененкаў быў амаль што спакойны. А што рабілася ў яго на сэрцы?..

Трэнер прадаўжаў пільна сачыць за ігрой. Вось і свісток суддзі. Такім чынам, лік 2:0 у карысць гасцей. Але-ж наперадзе, пасля перапынку, будзе яшчэ 45 мінут ігры!..

Міхаіл Георгіевіч спакойна ўстае са свайго месца, выкідвае зламаны муштук папяросы і роўным крокам накіроўваецца ў раздзявальню, дзе адпачываюць футбалісты.



Нападаючы А. Ягораў прарваўся да варот тбіліскіх дынамаўцаў.

Тыя чакаюць яго. Яны чакаюць парады — што трэба зрабіць, каб пераламіць ігру ў сваю карысць. І чуюць спакойныя словы трэнера:

— Іграеце добра. Тарпедаўцы ледзьве стрымліваюць вашы атакі. Яны ўжо стаміліся, і калі мы захаваем такі-ж тэмп, — мы пераможам. Патрэбна адно: атакаваць! Атакаваць усёй камандай!

І мінскія гледачы ўбачылі ў другой палавіне ігры, як дружна пайшла каманда ў рашучую атаку. Цэнтральны нападаючы Ягораў усё часцей і часцей падыходзіў да варот тарпедаўцаў. Малады футбаліст Фаламееў, які замяніў стаміўшагася Курнева, смелай і ініцыятыўнай ігрой унёс разгубленасць у абарону «Тарпеда». Неўзабаве моцным ударам здалёк Макараў пасылае першы мяч у вароты гасцей. Праз некалькі мінут Фаламееў зраўноўвае лік. На шчыту цяпер стаяць лічбы — 2:2. Тарпедаўцы не вытрымліваюць тэмпу. А мінчане атакуюць так, нібы і не было першай, напружанай паловы ігры, быццам яны толькі зараз выйшлі на поле.

Яшчэ адзін прарыў да варот «Тарпеда», удар — і мяч ляціць у сетку варот масквічоў. Яго забівае малады нападаючы Бачурын.

Гэтая ігра больш, чым якая іншая, паказала, што мінскія спартакаўцы валодаюць невычарпальнай воляй да перамогі, што яны не губляюцца пры няўдачах пераадольваюць іх, ідучы ўсёй камандай у атаку.

Аднак гэта не азначае, што каманда забывае пра абарону. Не, трывалая абарона надае ўпэўненасць нападаючым. Вароты мінскіх спартакаўцаў — на моцным замку. Варатар заслужаны майстар спорту Хоміч, цэнтральны абаронца капітан каманды майстар спорту Мімрык, абаронцы Голубеў, Маляўкін, Фамін, поўабаронцы Абрамовіч, Макараў, Арцёмаў становяцца непераадольнай сцяной, аб якую разбілася не адна атака нападаючых мацнейшых каманд краіны. І гэтая трывалая абарона надае ўпэўненасць нападаючым Мозеру, Курневу, Галашчапаву, Бачурыну, Ягораву, Фаламееву.

Цікава адзначыць, што ў сустрэчах з праслаўленымі футбольнымі калектывамі мінскія спартакаўцы дамагліся ганаровых вынікаў. Як вядома, у класе «А» каманды сустракаюцца двойчы. Перамога прыносіць камандзе два ачкі, нічыя — ачко. І вось сціплыя лічбы расказваюць, што, напрыклад, з такімі мацнейшымі камандамі, як маскоўскі «Спартак», маскоўскае «Тарпеда», ЦДСА, мінскія спартакаўцы за абодва кругі атрымалі па два ачкі, гэта значыць, не прайгралі ў адзінаборстве па суадносінах ачкоў. Двойчы перамагалі мінчане ленін-















Варатар А. Хоміч у браску.



Старшы трэнер А. Базененкаў назірае за ігрой.

градскую каманду «Зеніт», тры ачкі аддалі тбіліcцы — прызёры пяршынства 1953 года.

Набліжаецца к канцу футбольны чэмпіянат краіны. З бліскучымі вынікамі прыходзіць да гэтага фінішу каманда майстроў Мінскага «Спартака». Упершыню выступаючы пасля доўгага перапынку ў класе «А», яна трывала ўвайшла ў тройку мацнейшых каманд. Трэніруючыся па навейшаму круглагадавому метаду, смела вылучаючы маладых ігракоў, гэты калектыў праявіў сябе мужным, згуртаваным атрадам спартсменаў, якія ідуць у атаку да апошняй мінуты ігры, да фінальнага свістка суддзі.





На здымках (зверху злева направа): капітан каманды П. Мімрык, А. Хоміч, В. Голубеў, В. Маляўкін, Г. Абрамовіч, Н. Макараў, В. Арцёмаў, І. Мозер, Б. Курнеў, А. Егораў, Ю. Бачурын, А. Галашчапаў, В. Фаламееў.









Дзяржаўны ансамбль песні і танца Карэла-Фінскай ССР «Кантэле». «Рускі поўночны танец».

# „Кантэле"

Карэлія — край блакітных азёр і стромкіх сасновых лясоў, шумлівых вадаспадаў і срабрыстых мелодый цудоўнага, нагадваючага рускія гуслі інструмента кантэле.

Пад гукі кантэле многія стагоддзі ствараліся паэтычныя руны калевалы — народныя паданні аб тым, што перажыў, аб чым марыў народ. Пад гукі кантэле свабодны ад сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту карэла-фінскі народ у нашы дні ўслаўляе сваё новае жыццё, танцуе, вядзе карагоды, імправізуе жартоўныя ігры.

Вось чаму, калі ў 1936 годзе ўзнікла пытанне аб арганізацыі Дзяржаўнага ансамбля карэла-фінскай песні і танца, гэтаму калектыву далі блізкую і зразумелую кожнаму жыхару рэспублікі назву «Кантэле».

Шмат гадоў прайшло з таго часу, калі таленавіты паэт і кампазітар, этнограф і фальклярыст Віктар Панцелеймонавіч Гудкоў сабраў на першую рэпетыцыю ансамбля «Кантэле» яго ўдзельнікаў — лепшых прадстаўнікоў мастацкай самадзейнасці Карэла-Фінскай ССР. Вялікай і ўпартай працай заваёўваў кожны ўдзельнік ансамбля права называцца артыстам. Лепшыя народныя песні, танцы, ігры, карагоды — карэльскія, фінскія, вепскія, заанежскія і паморскія — уключаў у свой рэпертуар народны ансамбль «Кантэле». І хутка вялікі і заслужаны поспех стаў спадарожнічаць выступленням калектыва ў гарадах і сёлах рэспублікі, на Украіне і ў Прыбалтыцы, Казахстане і Сібіры, Кіргізіі і Калінінградскай вобласці, Архангельску і Урале, Беларусі і Узбекістане.

Асаблівa знамянальнай падзеяй у жыцці ансамбля «Кантэле» з'явіўся яго ўдзел у тыдні карэла-фінскай музыкі і танца ў сталіцы нашай Радзімы — Маскве. Тады-ж, у 1951 годзе, танцавальная група ансамбля, якая вырасла ў самастойны танцавальны калектыў, прыняла ўдзел у конкурсе па народных танцах у Берліне ў час Трэцяга Сусветнага фестываля моладзі і студэнтаў. Атрымаўшы на конкурсе 2-ю прэмію, танцавальны калектыў «Кантэле» заваяваў сусветную вядомасць і прызнанне.

... Вось перад вачыма гледачоў разгортваецца гульнявая сцэна: «Анежская вясельная павозка». Колькі тут дасціпнасці, жывасці і прывабнасці! А як таленавіта выконвае танцавальны калектыў «Кантэле» калевальскі карагодны танец «Маладзіца», вепскі гульні — «Круга». Не менш майстэрства і натхнення ў паморскім абрадавым танцы «Качачка», у рускім «Поўночным танцы», у «Поўночнай кадрылі», у танцавальных сцэнах «Старая вёска», «Так ткуць сукно», «Вецер у калгасным клубе» і іншых.

Таксама, як маладое іх існаванне, маладыя і большасць артыстаў танцавальнага ансамбля «Кантэле». Гэта былая ўдзельніца мастацкай самадзейнасці Пятроўскага народнага хора лесарубаў Феня Кір'якова, работніца слюдзяной фабрыкі Тоня Пахомава, калгасніца з Пражынскага раёна Ліда Макарава, чыгуначнік Анатоль Капытаў. Такіх імёнаў у калектыве многа, і ўсе яны заслугоўваюць, каб аб іх ведалі таксама, як ведаюць аб выхаванцах ансамбля заслужаных артыстах Карэла-Фінскай ССР Т. Пчолінай, Ф. Козіне, артыстах Е. Ізотавай, А. Арыфметыкавай, Н. Раманенка — лаўрэатах Сусветнага фестываля ў Берліне.

Ад удзельніка мастацкай самадзейнасці ў адной з вёсак Лохаўскага раёна да мастацкага кіраўніка ансамбля «Кантэле» — такі шлях і заслужанага артыста Карэла-Фінскай ССР Максіма Іванавіча Гаўрылава. З самадзейнасці Шаўтазёрскага раёна прышоў у выдатны танцавальны калектыў і другі яго кіраўнік — галоўны балетмайстар, заслужаны дзеяч мастацтваў Карэла-Фінскай ССР Васіль Іванавіч Конанаў.

Тое, аб чым не мог карэла-фінскі народ марыць нават у сваіх рунах, стала явай у нашай цудоўнай краіне, дзе ў многанацыянальны народны хор свабодна ўліваецца срэбраны голас кантэле.

І. НІСНЕВІЧ.

«Поўночная кадрыль».

Фото І. Салавейчыка.





У Мінску нядаўна гасціла дэлегацыя рускіх, украінскіх і беларускіх канадцаў. Госці агледзелі горад, пабывалі ў Музеі Вялікай Айчыннай вайны, на Мінскім аўтазаводзе, пазнаёміліся з работай Палаца піянераў.

На здымку: члены дэлегацыі рускіх, украінскіх і беларускіх канадцаў у дзіцячым садзе Мінскага аўтазавода.

Фота Д. Прэса і Г. Масальскага.

## Гумар

М. СКРЫПКА

### Амаль паэт

Ён стаў амаль зусім паэт:
З пісьменнікамі знаецца...
За імі ходзіць ён услед
І за руку вітаецца.

— Я, — кажа, — ў іх сям'ю ўвайшоў.
(І гэтым скрозь індычыцца.)
Вось толькі паміж чытачоў
Паэтам ён не лічыцца.

Ул. КУЛАКОЎ

### Хамелеон

У вочы вас пахваліць яшчэ як!
Моў, талент вы на рэдкасць адмысловы.
За вочы ён аблае так і сяк,
Бяздарным назаве абавязкова.
Хто-ж пасля гэтага сам ён?
— Хамелеон!

## З беркутам на ваўкоў

С. Джырэнбаеў — чалавек немаладых год. Нават тады, у 1939 годзе, калі ён першы раз у сваім жыцці прыехаў у Маскву на Усесаюзную сельскагаспадарчую выстаўку, Джырэнбаеву было далёка за пяцьдзесят гадоў. З таго часу мінула пятнаццаць год, але вочы старога паляўнічага па-ранейшаму добра бачаць, а рукі яго моцныя, як у маладога. Сёння С. Джырэнбаеў зноў на Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўцы. На яго грудзях два значкі: «Ударніку-паляўнічаму» і «Выдатніку паляўнічага промысла». С. Джырэнбаева мы засталі разам з яго маладым сябрам беркутам «Акек». Стары пяшчотна гладзіў беркута па галаве і белых плячах. «Акек» — па-казахску «белыя плечы». Беркуту толькі яшчэ сем год. У 1947 годзе паляўнічы, рызыкуючы жыццём, дастаў яго з гнязда старога беркута. Два гады цягнулася вучоба беркуцёнка, і вось настаў час палявання. Малады беркут паказаў цудоўныя вынікі: ён смелы, зоркі і паслухмяны. «Акек» за два з паловай месяцы мінулагодняй зімы забіў 18 ваўкоў і 65 лісіц.



Звычайна на галаве беркута адзеты шчыльны скураны каўпак. Паляўнічы здымае яго толькі тады, калі трэба напускаць беркута на здабычу. Сядзіць беркут на руцэ паляўнічага, якая апранута ў рукавіцу з сырамятнай скуры. Вядома, што трымаць 8—10 кілаграмаў на руцэ нялёгка, таму паляўнічы ў час язды трымае яго на спецыяльнай падстаўцы. Узляцеўшы ў паветра, беркут зоркім вокам заўважае звера і каменем кідаецца на яго. Нават самы мацёры воўк не можа справіцца з беркутам.

С. Джырэнбаеў у сваім калгасе імя Сталіна Джамбульскага раёна падрыхтаваў ужо не аднаго паляўнічага.

А. ТАРАСАЎ.

## ГРОДЗЕНСКАМУ ПЕДІНСТЫТУТУ—10 ГОД

У верасні 1939 года Гродзеншчына стала савецкай. У вобласці пачалася сапраўдная культурная рэвалюцыя. Савецкі ўрад адкрыў сотні новых школ, у якія пайшлі дзеці працоўных. З'явілася неабходнасць у цэлай арміі настаўнікаў. У гэтым-жа годзе адкрываецца Гродзенскі настаўніцкі інстытут. А ў верасні 1944 года, у той час, калі за Нёманам яшчэ грукатала артылерыя, адкрываецца Гродзенскі педагагічны інстытут. З партызанскіх атрадаў, з вайсковых шпіталяў, з вёсак і мястэчак у інстытут пайшла моладзь.

Зараз на стацыянары, вячэрнім і завочным аддзяленнях Гродзенскага педінстытута навучаецца паўтары тысячы чалавек. За дзесяць год інстытут выпусціў больш тысячы настаўнікаў. Зараз няма, бадай, ніводнай школы на Гродзеншчыне, дзе не было-б выпускніка Гродзенскага педінстытута. Многія з іх працуюць дырэктарамі школ, загадчыкамі раённых аддзелаў народнай асветы, інспектарамі.

Вялікай пашанай сярод студэнтаў карыстаецца выкладчык педагогікі, завуч інстытута Марк Яфімавіч Лявіцкі. Працуе ён настаўнікам ужо некалькі дзесяткаў год. Паважаюць яго за цікавыя лекцыі, за ўменне гутарыць з моладдзю.

Аўтарытэтам сярод студэнтаў карыстаюцца таксама Н. Я. Гурло, В. І. Дзенісюк, М. Ц. Пералмуцер і іншыя старэйшыя педагогі інстытута.

У інстытуце працуюць многія былыя яго студэнты: выкладчык і комсорг інстытута Н. І. Чартко, намеснік дырэктара па завочнаму навучанню Н. І. Дудкін, дэкан літаратурнага факультэта М. І. Сырамаха.

А. КАРПЮК.

## ШАШКІ

пад рэдакцыяй майстра спорту
М. ШАВЕЛЯ

Шашачная задача заўсёды прыцягвае шматлікіх аматараў шашачнай ігры. Канчатковай мэтай задачы з'яўляецца замыканне адной або некалькіх шашак і дамак праціўніка. Рашэнне задачы здзіўляе нявзной прыёмаў, прыгажосцю канчатковых палажэнняў.

Але галоўная вартасць шашачнай задачы ў яе сувязі з практычнай ігрой. Задача прывучае ў любой пазіцыі шукаць нешаблоннае рашэнне.



Белыя пачынаюць і замыкаюць простую чорных.

Гэтую задачу склаў адзін з лепшых сучасных складальнікаў задач Н. Пустыннікаў. Замыканне чорнай простай дасягаецца ў даным варыянце на полі h4, а ў другім — на полі h2.

**Рашэнне заканчэння шашачнай партыі, змешчанай у № 7 часопіса.**
1. e7—f8! g3—h2 (Калі 1. ... a3—b2, дык 2. e3—f4, g3:e5; 3. d2—c3, b2—d4; 4. f8—g7, e5—f4; 5. g7:c3, f4—e3; 6. c3—e1 і выйгрываюць.)
2. f8—c5! a3—b2
3. e3—d4! b2—a1
4. d2—c3 h2—g1
5. c5—a7 g1:c5
6. a7:d4 і выйгрываюць.

# У НУМАРЫ


**Ад 8 раніцы да 10 вечара.** Фотанарыс.
**Р. Сабаленка.** Цвёрдым поступам.
**М. Лужанін.** Новыя вершы.
**І. Науменка.** Надзейныя рукі. Нарыс.
**М. Клімковіч.** Галасы маладых.
**Н. Гілевіч.** Камбайнер. Шчасце. Вершы.
**Ул. Нядзведскі.** На партызанскім аэрадроме. Верш.
**М. Смагаровіч.** Імяніннік. Верш.
**З. Вагер.** Ураджай. Верш.
**М. Арочка.** Дзічка. Верш.
**А. Асіпенка.** Пастух. Апавяданне.
**В. Бабровіч.** У добры час. Нарыс.
**Янка Маўр.** Фантамабіль прафесара Цыляноўскага. Навукова-фантастычная аповесць.
**Р. Астроўская і Д. Сокалава.** Нікалай Астроўскі. (Да 50-годдзя з дня нараджэння.)
**Ю. Багушэвіч.** Каманда ідзе ў атаку.
**І. Нісневіч.** «Кантэле».
**Гумар. М. Скрыпка.** Амаль паэт.
**Ул. Кулакоў.** Хамелеон.
**А. Тарасаў.** З беркутам на ваўкоў.
**А. Карпюк.** Гродзенскаму педінстытуту — 10 год.
**Шашкі.**


На першай старонцы вокладкі: **«Першы званок».**
На чацвёртай старонцы вокладкі: **«Збор яблык у калгасе».**
Фотаэцюд А. Дзітлава.


**Рэдактар Аляксей КУЛАКОЎСКІ.**
**Рэдакцыйная калегія: Алесь АСІПЕНКА, Дзмітры БАЛЬШОЎ, Янка БРЫЛЬ, Юры ВАСІЛЬЕЎ, Іван ГРАМОВІЧ (намеснік рэдактара), Міхась ЛЫНЬКОЎ, Сяргей СЕЛІХАНАЎ, Максім ТАНК, Георгі ШЧАРБАТАЎ.**

**«Молодость»**
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал ЦК ЛКСМБ.
На белорусском языке.

Афармленне В. Грамыкі.
Тэхрэдактар І. Шаршульскі.
Карэктар Л. Таўлай.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 66. Тэлефоны: рэдактара—93-648, намесніка рэдактара—93-592, адказн. сакратара — 93-985, аддз. навукі і навучаючайся моладзі — 93-892, аддз. рабочай і сельскай моладзі—93-985, аддз. ілюстрацый—93-892, аддзел пісем—93-854.

Здадзена ў набор 10.VIII 54 г. Падпісана да друку 30.VIII 54 г. Фармат паперы 70×108¹/₈. Друк. арк. 4. Вуч.-выд. арк 7. Тыраж 20 000 экз.

Цана 2 руб.

АТ 03644. Заказ 559.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

